● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

28 лістапада 1996 г. чацвер, № 277 (23080)

# ЗВЯЗДА



## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ НАВЕДАЕ ІНДЫЮ КРЫХУ ПАЗНЕЙ

Афіцыяльны візіт Прэзідэнта Беларусі ў Індыю, які намячаўся на снежань, перанесены на больш позні тэрмін па просьбе беларускага боку. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў нашай рэспублікі. Прадугледжваецца, што Аляксандр Лукашэнка наведае дружалюбную краіну ў студзені-лютым наступнага года.

**БЕЛТА.**

## У НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ — УРАЧЫСТАСЦЬ

Урачыстыя мерапрыемствы з нагоды прыняцця новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, адобранай народам на рэферэндуме, адбудуцца 28 лістапада. Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта краіны, у іх прымуць удзел кіраўнікі ўсіх структур дзяржаўнай улады і кіравання, дэпутаты Вярхоўнага Савета, кіраўнікі дыпламатычных місій і прадстаўнікі шэрага міжнародных арганізацый.

Беларускае радыё і тэлебачанне будуць весці прамую трансляцыю.

**БЕЛТА.**

***ГРОШЫ***

## НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ» НЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

**Серада стала яшчэ адным днём, які падмацаваў на наяўным валютным рынку беларускі рубель. Няштатную сітуацыю, якая складваецца, тлумачаць заканчэннем лістапада.**

Нават некаторыя банкі, якія прадаюць наяўны долар, крыху знізілі яго кошт. Напрыклад, «Мінсккомплексбанк», які ў аўторак прадаваў USD па курсу 23.010 рублёў за долар, у сераду апусціў планку да 22.923 рублёў. У той жа час курс куплі канверсоўнага ўзрос на 16 пунктаў — 21.916. Між тым, некаторыя абменныя пункты «Белбізнесбанка» ўчора трымалі курс продажу USD праз украінскую грыўню на мяжы 23.010 рублёў, а куплі — 21.850. Іншыя фінансавыя ўстановы, той жа «Пріорбанк», скуплялі наяўны долар па 20.000 рублёў, а прадавалі па 20.150 (афіцыяльна ўстаноўленая мяжа).

Не без перамен і на «чорным рынку». Сюрпрыз беларускаму рублю паднеслі мянялы, якія знізілі як кошт куплі долара, так і кошт продажу адразу на 500 рублёў. У сераду валютчыкі скуплялі наяўны USD па 21.500 рублёў, а прадавалі па 22.000.

**Кар. «Звязды».**

## УКАЗ
### Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
№ 492

**АБ ПРЫСВАЕННІ В. І. БУРАВУ, Я. І. ВАЛАДЗЬКО, М. Х. КРЫЛОВУ, У. К. НІКАНОВІЧУ І С. Р. ШЫЛАВУ ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ «ЗАСЛУЖАНЫ РАБОТНІК ТРАНСПАРТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ»**

За вялікі асабісты ўклад у развіццё чыгуначнага транспарту, шматгадовую плённую працу ў гэтай галіне прысвоіць ганаровае званне «Заслужаны работнік транспарту Рэспублікі Беларусь»:

**Бураву** Валерыю Іванавічу — галоўнаму інжынеру дарожнага будаўніча-мантажнага трэста Беларускай чыгункі

**Валадзько** Яўгенію Іванавічу — начальніку Беларускай чыгункі

**Крылову** Мікалаю Харытонавічу — начальніку Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі

**Нікановічу** Уладзіміру Канстанцінавічу — начальніку лакаматыўнага дэпо Баранавічы

**Шылаву** Сяргею Рыгоравічу — намесніку начальніка Беларускай чыгункі

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

27 лістапада 1996 г.
г. Мінск.



*Успаміны старога паляўнічага.*

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ДАЎ ІНТЭРВ'Ю АМЕРЫКАНСКАЙ ГАЗЕЦЕ

Сем мільёнаў замежных чытачоў даведаюцца аб сітуацыі ў Беларусі са слоў яе Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Менавіта такая іх колькасць у амерыканскай газеты «Уол-стрыт джорнэл», інтэрв'ю якой кіраўнік дзяржавы даў 27 лістапада.

Кола пытанняў, што былі закрануты ў час гутаркі, датычылася праблем узаемаадносінаў Прэзідэнта і парламента да і пасля рэферэндуму, беларуска-расійскай інтэграцыі, рэфарміравання эканомікі. Прэзідэнт выказаў свае адносіны да эміграцыі ў ЗША беларускіх грамадзян З. Пазняка і С. Навумчыка. Ён даў таксама адказы на пытанні аб знешняй палітыцы Беларусі. У прыватнасці, размова ішла аб узаемаадносінах рэспублікі з краінамі Заходняй Еўропы, аб адносінах да прасоўвання НАТО на ўсход.

Адказваючы на пытанні, звязаныя з унутрыпалітычнай сітуацыяй у краіне напярэдадні і пасля рэферэндуму, Аляксандр Лукашэнка сказаў: галоўным матывам апазіцыі ва ўзнікшым процістаянні была барацьба за ўладу, якая, на яго думку, і аб'яднала палярныя палітычныя сілы — ад камуністаў да нацыяналістаў. Цяпер, падкрэсліў Прэзідэнт, ніякіх цяжкасцей ва ўзаемаадносінах з парламентам няма. Сітуацыя, на яго погляд, развіваецца дынамічна, завяршаецца работа над фарміраваннем Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Інтэрв'ю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у бліжэйшы час будзе апублікавана на рэдактарскай старонцы ў «Уолстрыт джорнэл». Аўдыторыя чытачоў выдання — кіраўнікі буйнога бізнесу, палітыкі ў многіх краінах свету. Уладальнікам газеты, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Нью-Йорку, з'яўляецца фінансавая карпарацыя «Доў Джонс».

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

## «СІЛАВІКІ» ПАДТРЫМАЛІ ПРЭЗІДЭНТА

Вынікі ўдзелу прадстаўнікоў беларускіх сілавых структур у праведзеным рэферэндуме аб'явіў 26 лістапада ў Нацыянальным прэс-цэнтры на сустрэчы з журналістамі прэс-сакратар Савета бяспекі Васіль Баранаў.

Паводле яго слоў, ва ўсенародным плебісцыце прынялі ўдзел 99,6 працэнта афіцэраў, прапаршчыкаў, салдат, сяржантаў, рабочых і служачых сілавых міністэрстваў і ведамстваў. Так, напрыклад, ва ўнутраных войсках у галасаванні прынялі ўдзел 100 працэнтаў ваеннаслужачых. З іх за праект дапаўненняў і змяненняў у Канстытуцыю, прапанаваны Прэзідэнтам, прагаласавалі 93 працэнты, а за праект змяненняў Канстытуцыі, вынесены на рэферэндум дзвюма парламенцкімі фракцыямі, — 3,5 працэнта.

У пагранічных войсках і КДБ у галасаванні ўдзельнічалі 99,9 працэнта асабовага саставу гэтых структур. Пераважная большасць з іх таксама падтрымала прэзідэнцкія ініцыятывы. Ва Узброеных Сілах і чыгуначных войсках за папраўкі, прапанаваныя кіраўніком дзяржавы, выказаліся, адпаведна, 85 і 89 працэнтаў ваеннаслужачых.

Васіль Баранаў падкрэсліў: гэтыя вынікі рэферэндуму сведчаць аб тым, што пераважная большасць прадстаўнікоў сілавых структур поўнасцю падтрымлівае ініцыятывы Прэзідэнта Беларусі.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ ВЫХОДЗІЦЬ З КАНСТЫТУЦЫЙНАГА КРЫЗІСУ

Вярхоўны Савет пацвердзіў, што 24 лістапада ў Беларусі адбыўся абавязковы рэспубліканскі рэферэндум па праекту змяненняў і дапаўненняў Канстытуцыі краіны. Такое рашэнне прынята 26 лістапада на вячэрнім пасяджэнні сесіі парламента, якое адбылося пад старшынствам намесніка кіраўніка Вярхоўнага Савета Юрыя Малумава. На 16.15 на пленарным пасяджэнні, што праходзіла ў будынку Беларускага саюза моладзі, было зарэгістравана 111 дэпутатаў.

У прынятым Законе «Аб рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г. у Рэспубліцы Беларусь» дэпутацкі корпус канстатаваў, што ў гэты дзень у краіне адбылося ўсенароднае галасаванне па важнейшых праблемах дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Характар пытанняў, вынесеных на плебісцыт, іх грамадская і сацыяльная значнасць сведчаць аб тым, што ў адпаведнасці з Канстытуцыяй народ Беларусі прыняў рашэнні, якія вызначаюць будучыню нашай дзяржавы. Усенароднае апытанне, адзначаецца ў прэамбуле закона, праходзіла ў складанай і напружанай палітычнай абстаноўцы. У стане палітычнага процістаяння апынуліся асобныя галіны дзяржаўнай улады, палітычныя партыі і грамадскія аб'яднанні. З боку праціўнікаў рэферэндуму была зроблена спроба ўцягнуць у гэты канфлікт і грамадзян нашай краіны.

Сесія Вярхоўнага Савета прапанавала кіраўніку дзяржавы сумесна з парламентам зрабіць неабходныя захады па рэалізацыі рашэнняў, прынятых у ходзе ўсенароднага галасавання, заклікала дзяржаўныя, грамадскія і іншыя органы і арганізацыі, службовых асоб і грамадзян рэспублікі кіравацца ў сваёй дзейнасці рашэннямі, прынятымі на рэспубліканскім рэферэндуме.

Як заявіў Аляксандр Лукашэнка, а ён удзельнічаў у рабоце парламента, прыняцце гэтага закона выводзіць краіну з канстытуцыйнага крызісу і пазбаўляе праціўнікаў плебісцыту падставы займацца палітычнымі спекуляцыямі. Прэзідэнт падзякаваў дэпутацкаму корпусу за праяўленую пазіцыю, адзначыўшы іх важкі ўклад ва ўмацаванне стабільнасці ў грамадстве.

Потым увазе парламентарыяў быў прапанаваны законапраект «Аб Пагадненні «Аб грамадска-палітычнай сітуацыі і аб канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусь». Справа ў тым, што спікер парламента Сямён Шарэцкі, які падпісаў дакумент, насуперак свайму абавязацельству не выканаў некаторыя пункты пагаднення. У прыватнасці, гэта датычыць адклікання з Канстытуцыйнага суда прапаноў групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета аб імпічменце Прэзідэнту. Тым больш, як стала вядома, 12 дэпутатаў адклікалі свае подпісы пад прапановай аб імпічменце. У сувязі з гэтым у Канстытуцыйнага суда знікаюць падставы для ўзбуджэння працэдуры адхілення кіраўніка дзяржавы ад улады. Таму сесія Вярхоўнага Савета вырашыла неадкладна разгледзець і гэта пытанне. Пасля дыскусіі, у ходзе якой дэпутаты адобрылі прапанаваны законапраект, Вярхоўны Савет прыняў наступнае рашэнне: у сувязі са змяненнем прававой сітуацыі, звязанай з адкліканнем шэрагам дэпутатаў сваіх подпісаў, спыніць у Канстытуцыйным судзе вытворчасць па справе аб парушэнні Прэзідэнтам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Віктар Кучынскі прапанаваў на разгляд сесіі законапраект аб прынцыпах фарміравання Палаты прадстаўнікоў у пераходны перыяд, які пасля шэрага папravak і дапаўненняў таксама быў прыняты. У прыватнасці, дэпутаты зацвердзілі наступную норму: на падставе заяў дэпутатаў сесія Вярхоўнага Савета па ўзгадненню з Прэзідэнтам зацвярджае састаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Сесія прыняла пастанову аб стварэнні рабочай групы па падрыхтоўцы першага пасяджэння Палаты прадстаўнікоў.

Дэпутаты даручылі старшыні сесіі Юрыю Малумаву падпісаць гэту пастанову, а таксама накіраваць на подпіс Прэзідэнту тры прынятыя законы.

Як стала вядома вечарам, у той жа дзень Цэнтральная выбарчая камісія зацвердзіла афіцыяльныя вынікі плебісцыту, праведзенага 24 лістапада. Такім чынам, з 27 лістапада ў дзеянне ўступіў новы варыянт Канстытуцыі, адобранай народам.

Улічваючы гэту акалічнасць, раніца наступнага дня сесіі пачалася з абмеркавання далейшых дзеянняў Вярхоўнага Савета ў новай сітуацыі. У прыватнасці, разглядаліся пытанні, звязаныя з працэдурай фарміравання Палаты прадстаўнікоў, рэарганізацыяй сакратарыята, стварэннем падліковай камісіі, якая падвяла б рысу пад дзейнасцю Вярхоўнага Савета.

Пасля праведзеных дыскусій і кансультацый дэпутаты ўнеслі ў парадак дня два пытанні — аб матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні арганізацыі работы сесіі Вярхоўнага Савета і аб фарміраванні Палаты прадстаўнікоў. Да абмеркавання гэтых пытанняў парламентарыі вырашылі вярнуцца пасля перапынку. Плануецца, што на вячэрнім пасяджэнні сесія разгледзіць заявы дэпутатаў, якія выказалі жаданне працаваць у Палаце прадстаўнікоў. У адпаведнасці з прынятым напярэдадні законам спіс кандыдатаў будзе накіраваны на ўзгадненне Прэзідэнту. Непасрэднае фарміраванне ніжняй палаты Нацыянальнага сходу парламент плануе пачаць раніцай 28 лістапада.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

## У АВАЛЬНАЙ ЗАЛЕ НЕ БЫЛО КВОРУМУ

Вечарам 26 лістапада парламентарыям, якія засталіся працаваць у Авальнай зале, паведамілі, што ў другой палове дня адбылося пашыранае пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета. На ім прынята заява да суайчыннікаў і сусветнай грамадскасці, у якой вынікі рэферэндуму абвяшчаліся «юрыдычна незаконнымі». Прэзідыум звярнуўся да Канстытуцыйнага суда і Генеральнага пракурора краіны з патрабаваннем «неадкладнай і прынцыповай ацэнкі шматлікіх фактаў парушэння заканадаўства і Канстытуцыі» рэспублікі ў час плебісцыту. Гэта, на думку дэпутатаў, дасць магчымасць захаваць статус Беларусі як члена сусветнага супольніцтва і не страціць павагу да канстытуцыйнага ладу дзяржавы.

Аднак парламентарыі, не сабраўшы кворуму, былі проста паралізаваны ў сваіх дзеяннях і не маглі прыняць ніякага рашэння, акрамя як правесці слуханні па бягучаму моманту. У разгорнутай дыскусіі яны пацвердзілі свой намер і далей працягваць работу ў Авальнай зале. Было вырашана сабрацца ў чарговы раз на наступны дзень у 10 гадзін раніцы.

Раніцай 27 лістапада зноў не было кворуму. І дэпутаты ў Авальнай зале паставілі сабе за мэту знайсці выйсце з узнікшай неадназначнай сітуацыі. У ходзе дэбатаў паступіла прапанова запрасіць на пасяджэнне сесіі калег, якія сабраліся ў будынку па вуліцы К. Маркса. Для выпрацоўкі канчатковага рашэння парламентарыі, пакінуўшы Авальную залу, правялі пасяджэнне.

**БЕЛТА.**

## *Да канца падпіскі — толькі 3 дні!*

30 лістапада заканчваецца падпіска на першае паўгоддзе 1997 года — года, у якім мы разам з вамі адзначым 80-годдзе старэйшай беларускай газеты. У сённяшняй складанай сітуацыі, вядома, цяжка знайсці лішнія грошы на падпіску, але, паверце, «Звязда» не будзе лішняй у вашым доме. Мы даём вам галоўнае — інфармацыю.

Падпіску можна аформіць на паўгода (тады, прыслаўшы спецыяльны купон, вы зможаце стаць удзельнікам латарэі, галоўны прыз якой — конь з вупражжу). Кошт падпіскі на першае паўгоддзе — **83.400 рублёў.**

Падпіску можна аформіць і на тры месяцы **(41.700 рублёў).** *Удзельнікі латарэі могуць выйграць тавары народнага спажывання, сярод якіх электраплуг, веласіпеды, тэлевізары, пральныя машыны, фотаапараты і г.д.*

Нагадваем, што **спецыяльны конкурс праводзіцца і для паштальёнаў,** для якіх таксама ўстаноўлены каштоўныя прызы: тэлевізар, пральная машына «Мара», веласіпед, а таксама бясплатныя пуцёўкі для аздараўлення і адпачынку дзяцей за мяжой. Падрабязна аб гэтым вы зможаце прачытаць у нумары за 29 лістапада.

# КАЛІ МЫ ПЕРАМОЖАМ ЗЛАЧЫННАСЦЬ

**«Пакуль не наладзяцца справы ў эканоміцы, наўрад ці можна заяўляць аб тым, што мы пераможам злачыннасць». Так лічыць начальнік следчага аддзела Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі Валерый НОВІКАЎ. Вось што ён расказаў у інтэрв'ю карэспандэнту весніка БЕЛТА «В кабинетах власти» Людміле Класкоўскай.**

Стан спраў па лініі следчых органаў дзяржбяспекі сведчыць: у краіне працягвае захоўвацца ўстойлівая і дынамічная тэндэнцыя да крыміналізацыі грамадства, падкрэсліў Валерый Новікаў. Статыстыка сумная: за апошнія два гады больш чым у два разы павялічылася колькасць крымінальных спраў, якія расследуе КДБ. Калі за 1993-1994 гады іх было 345, то ў 1995-1996 — ужо 770.

— У следчых органах я працую 24 гады, — адзначыў ён. — Тым не менш, не перастаю здзіўляцца цынізму, нахабнасці, адкрытасці многіх злачынстваў. Калі браць па катэгорыях, то назіраецца вялікі рост злачынстваў, звязаных з кантрабанднай дзейнасцю (463 крымінальныя справы за апошнія два гады). Прычым увозяць і вывозяць усё — метал, замежную валюту, алкагольныя і тытунёвыя вырабы. Мы маем звесткі, што дзейнічаюць сталыя злачынныя групоўкі, у якіх адпрацаваны схемы і каналы дастаўкі тавараў. Людзі, якія займаюцца такім бізнесам, ведаюць, дзеля чаго рызыкуюць: на кожную ўвезеную фуру, не лічачы кошту самога тавару, адпускаецца каля 70 тысяч долараў ЗША на аплату выдаткаў, звязаных з перамяшчэннем грузаў. Вельмі складана аднымі сіламі органаў КДБ спыніць такі паток кантрабанды.

Паводле слоў Валерыя Новікава, непакоіць і масавае парушэнне мяжы жыхарамі Азіяцкага рэгіёна, у прыватнасці, кітайцамі. Матэрыялы крымінальных спраў сведчаць: на тэрыторыі Беларусі добра пастаўлена разгалінаваная сетка злачынных элементаў, якія займаюцца незаконнай міграцыяй кітайскіх грамадзян па маршруту Кітай — Масква — Мінск — Брэст — Чэхія — Германія. Зноў жа здзіўляюць размах гэтых злачынстваў і колькасць людзей, якія задзейнічаны на пераправе. Такса высокая: незаконная дастаўка з Кітая ў Цэнтральную Еўропу — адна тысяча долараў ЗША. Цяпер органы дзяржбяспекі, мытнікі, пагранічнікі ставяць перад сабой задачу лакалізаваць гэту з'яву.

Мы заклапочаны, расказаў далей начальнік аддзела КДБ, і пастаянна растучай колькасцю ўвозу на тэрыторыю рэспублікі наркатычных рэчываў. Расследаванне паказвае, што размова ідзе аб сотнях тон макавай саломкі, кілаграмах гераіну, марыхуаны. Як правіла, тут замешаны грамадзяне замежных дзяржаў.

Асаблівая катэгорыя злачынстваў — эканамічныя, звязаныя перш за ўсё з незаконнымі здзелкамі з каштоўнымі металамі. Мы расследавалі канкрэтную справу, калі кантрабандным спосабам спрабавалі вывезці ў Бельгію алмазную сыравіну — 3 тысячы 405 каратаў на агульную суму каля мільёна долараў ЗША.

— Цяпер, — адзначыў Валерый Новікаў, — вядзецца следства на Гродзенскай тытунёвай фабрыцы. У адпаведнасці з законам я не магу гаварыць аб выніках папярэдняга следства. Скажу толькі адно: размах злачыннай дзейнасці ўражвае. Усяго ж дзякуючы намаганням работнікаў дзяржбяспекі за апошні перыяд па прыгаворах судоў у даход дзяржавы канфіскавана 2 мільёны 217 тысяч долараў ЗША, 296 тысяч нямецкіх марак, больш за 200 мільёнаў расійскіх рублёў. Акрамя таго, дзяржаве вернута матэрыяльных каштоўнасцей на агульную суму звыш 20 мільярдаў рублёў у разліковых білетах Нацыянальнага банка Беларусі. Да гэтага трэба прыплюсаваць і вялікую колькасць канфіскаванай зброі.

Паводле слоў субяседніка, у рабоце следчых сёння нямала цяжкасцей, пачынаючы ад забеспячэння аргтэхнікай і заканчваючы недасканаласцю асобных нормаў крымінальнага і крымінальна-працэсуальнага заканадаўства. Жыццё не стаіць на месцы, а вось заканадаўчая база не набліжана да цяперашніх умоў. Несумненна, што працэс праходжання ў парламенце законапраектаў, асабліва тых, якія рэгулююць сферу крымінальна-прававых адносінаў, патрабуе паскарэння.

— Пакуль жа перабудоўвацца прыходзіцца на хаду, — зазначыў Валерый Новікаў. — Вядома ж, шукаем больш дасканалыя метады работы, мяняем тактыку. Радуе, што апошнім часам органы дзяржбяспекі дзейнічаюць у цесным узаемадзеянні з работнікамі міліцыі і пракуратуры, кантрольнымі органамі і службамі Адміністрацыі Прэзідэнта і Кабінета Міністраў, бо на сённяшні дзень усім нам паасобку не справіцца з такім патокам злачынстваў. І ўсё ж, пакуль наша хворая эканоміка не стане на ногі, пакуль жыццё людзей не палепшыцца, чакаць хуткага поспеху і заяўляць, што мы пераможам злачыннасць, я не стаў бы. Але не хацелася б заканчваць нашу гутарку на такой мінорнай ноце. Хачу запэўніць, што ўсё, што ад нас залежыць у барацьбе са злачыннасцю, мы зробім.

**БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Здаецца, заработная плата пачынае набываць сапраўдны статус першачарговага плацяжу

Апошнія даныя, зафіксаваныя Мінстатам па запазычанасці па заработнай плаце, адносяцца да 1 лістапада. Наступныя, больш свежыя лічбы павінны з'явіцца ў галоўнай статыстычнай установе Беларусі толькі недзе ў першых днях снежня. Таму ўдакладняць рэальнае становішча з выплатай заработнай платы карэспандэнту «Звязды» прыйшлося непасрэдна на месцах. Звязаўшыся з шэрагам прадпрыемстваў, удалося высветліць наступнае: амаль усюды працоўныя ў адпаведнасці з зацверджаным графікам выплат атрымалі пэўныя сумы беларускіх «зайцоў». Такім чынам, быццам бы сумныя ўспаміны былых нявыплат адыходзяць у мінулае.

Беларускія настаўнікі вось ужо некалькі месяцаў запар спраўна атрымліваюць заробак (так, прынамсі, паведамілі ў галіновым прафсаюзе). Што датычыцца рабочых прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі, то калі дзе-небудзь і недаатрымлівалі пэўную суму заробку (як гэта здарылася, дарэчы, на Магілёўскім аўтазаводзе, дзе выдавалі грошы ў памеры мінімальнага спажывецкага бюджэту), то там запэўнівалі ў хуткім выпраўленні падобнай сітуацыі. Нават у аграпрамысловым комплексе, дзе на пачатак лістапада была самая вялікая запазычанасць па выплаце заработнай платы, пачаўся працэс разліку. У шэрагу месцаў, праўда, за кошт натураплаты (мукой, зернем, бульбай), але ж вяскоўцы і гэтаму былі шчыра рады. Дзесьці кіраўніцтва аграпрадпрыемстваў выплаціла нават невялікія (100—300 тысяч «зайцоў») прэміі лепшым працаўнікам.

Так што пакуль на шэрагу прадпрыемстваў народнай гаспадаркі Беларусі назіраецца даволі неблагое становішча з выплатай заробку. Якім яно будзе ў далейшым — не бяруцца прагназіраваць нават спецыялісты. Паглядзім...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД*

## Гэта горкае слова «імпічмент»

Рашэнне, прынятае Канстытуцыйным судом (КС) увечары 26 лістапада, можна лічыць канчатковай перамогай Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі над апазіцыйнымі яму сіламі. Суд спыніў вытворчасць па справе аб адхіленні кіраўніка дзяржавы ад пасады на той падставе, што пад дэпутацкай заявай зменшылася колькасць подпісаў. Калі яшчэ ў мінулую суботу імпічменту патрабавалі 75 дэпутатаў, то да аўторка іх засталося 63. (Паводле Канстытуцыі, «падпісантаў» павінна быць не менш як 70.)

Сярод праваазнаўцаў няма адзінага меркавання наконт таго, ці мелі дэпутаты права адклікаць подпісы пасля ўзбуджэння справы. Гэта праблема стала прадметам гарачых дыскусій, якія вяліся ў сценах суда на працягу 25 і 26 лістапада. Але перамог падыход, які прапаноўваў Аляксандр Лукашэнка.

Дэпутаты, якія перагледзелі свае адносіны да праблемы імпічменту, тут жа далучыліся да той часткі парламента, якая перамясцілася ў будынак саюза моладзі.

На дзейнасці Канстытуцыйнага суда ў тым выглядзе, якой яна была ў апошні час, пастаўлена кропка. У новай структуры ўлады КС будзе іграць зусім іншую ролю. Пра тэрмін «імпічмент» суддзям больш успамінаць не давядзецца, як і пра той час, калі іх рашэнні з'яўляліся канчатковымі і не падлягалі абскарджанню і апратэставанню.

Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня 27 лістапада злёг у бальніцу, — як вядома, у яго праблемы з сэрцам. У гэты ж дзень у тэлефонным інтэрв'ю тэлеканалу «НТБ» ён нагадаў, што ў адпаведнасці з ранейшым рашэннем КС рэферэндум 24 лістапада быў кансультатыўным, і таму ў дзяржаве застаецца законнай тая Канстытуцыя, якая была прынята 15 сакавіка 1994 года.

Аднак пра юрыдычныя аспекты гэтай праблемы ў бліжэйшы час наўрад ці будуць успамінаць новы парламент, Прэзідэнт ці ўрад. Дэ-факта ў Беларусі ўжо дзейнічае новая Канстытуцыя.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## УЗНАГАРОДЫ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за значны ўклад у развіццё айчыннай навукі, падрыхтоўку навуковых кадраў дырэктар Навукова-даследчага інстытута парашковай металургіі **ВІЦЯЗЬ Пётр Аляксандравіч** узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за шматгадовую плённую працу па ўдасканаленню будаўнічай вытворчасці і вялікі асабісты ўклад у будаўніцтва Беларускага цэментнага завода кіраўніку будаўнічага трэста № 10 «Цэментбуд» **ГАЛІНОЎСКАМУ Івану Яфрэмавічу** прысвоена ганаровае званне «Заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь».

**БЕЛТА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**МАСКВА ПАЧНЕ РАЗЛІЧВАЦЦА З ДАЎГАМІ Ў 1998 ГОДЗЕ**

Масква зможа пачаць выплату даўгоў Парыжу толькі ў 1998 годзе. Такую думку выказаў учора першы намеснік міністра эканомікі Расіі Уладзімір Панскоў. Нагадаем, што ў аўторак прэм'ер-міністр Расіі і Францыі Віктар Чарнамырдзін і Ален Жупэ падпісалі пагадненне, у адпаведнасці з якім Масква павінна будзе выплаціць Парыжу 400 мільёнаў долараў у лік пагашэння запазычанасці, у тым ліку і па аблігацыях царскай Расіі. На думку Панскова, 400 мільёнаў долараў — сума невялікая, і Расія ў стане яе выплаціць. Аднак намеснік міністра ўпэўнены, што з-за складанага стану эканомікі краіны ні ў гэтым, ні ў наступным годзе Расія не зможа пагасіць доўг.

**ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА НАГОРНАГА КАРАБАХА ЛЕГІТЫМНЫМІ РАСІЯ НЕ ПРЫЗНАЛА**

Як самавольную акцыю ўладаў Сцепанакерта расцаніла расійскае МЗС так званыя выбары прэзідэнта, якія адбыліся 24 лістапада ў Нагорным Карабаху. Напярэдадні афіцыяльны прадстаўнік МЗС Расіі адзначыў, што гэтыя выбары прайшлі, нягледзячы на негатыўныя адносіны міжнароднай супольнасці. «Тое, што на выбарах прысутнічала невялікая група асоб, у тым ліку і расійскага паходжання, якія называлі сябе міжнароднымі назіральнікамі, нічога не мяняе», — падкрэсліў дыпламат. Па яго словах, гэты факт не можа надаць выбарам легітымны характар.

**ІЗРАІЛЬ ПАЙШОЎ НА ЎСТУПКІ**

На ізраільска-палесцінскіх перамовах дасягнуты істотны прагрэс. «Прарыў» атрымаўся пасля таго, як Ізраіль пагадзіўся не ўключаць у тэкст пагаднення пра вывад ізраільскіх войскаў з арабскай часткі Хебро патрабаванні аб захаванні за ім права праследавання палесцінскіх тэрарыстаў у раёнах, якія будуць пакінуты. Між тым, згодна з данымі з інфармаваных крыніц, прэзідэнт Ізраіля асабіста далучыўся да арганізацыі сустрэчы паміж ізраільскім прэм'ерам Нетаніягу і лідэрам Палесцінскай аўтаноміі Арафатам. Яна можа адбыцца ўжо ў бліжэйшы час.

**ЗША ЗАХАВАЮЦЬ САНКЦЫІ Ў АДНОСІНАХ ДА ЮГАСЛАВІІ**

Злучаныя Штаты маюць намер і надалей перашкаджаць вяртанню Югаславіі ў міжнародныя арганізацыі і, у прыватнасці, у фінансава-крэдытныя інстытуты, у сувязі з непрызнаннем вынікаў выбараў у шэрагу акруг краіны. Пра гэта заявіў прадстаўнік ДзяржДэпартамента ЗША Нікалас Бернс. Ён падкрэсліў, што захаванне санкцый у адносінах да Югаславіі з'яўляецца вынікам антыдэмакратычнай палітыкі ўладаў, якая назіраецца ў апошнія некалькі дзён. «Мы патрабуем ад прэзідэнта Мілошавіча перагледзець вынікі выбараў», — заявіў спадар Бернс.

**МАЦІ ТЭРЭЗА АДДАЛАСЯ Ў РУКІ МЕДЫКАЎ**

Урачам удалося ўгаварыць маці Тэрэзу, шпіталізаваную некалькі дзён таму ў Калькуце ў сувязі з ускладненнямі на сэрцы, прайсці медыцынскае абследаванне. Раней яна адмаўлялася ад прапаноў урачоў, тлумачачы гэта тым, што мільёны беднякоў ва ўсім свеце не могуць дазволіць сабе такія лячэнне і ўвагу, якія атрымлівае яна, і прасіла даць ёй памерці, як паміраюць тыя, каму яна служыла. Пасля таго, як маці Тэрэза дала згоду, яе перавялі ў кардыялагічны цэнтр, дзе яе абследуюць высокапрафесіянальныя кардыяхірургі.

**ІРАКСКАЯ НАФТА ХУТКА З'ЯВІЦЦА НА ЕЎРАПЕЙСКІХ І АЗІЯЦКІХ РЫНКАХ**

Ірак гатовы да экспарту нафты на еўрапейскія і азіяцкія рынкі, як гэта прадугледжана пагадненнем з ААН па формуле «нафта ў абмен на прадукты харчавання». Згодна з паведамленнямі з Ірака, прадстаўнікі міністэрства нафты гэтай краіны заявілі, што тэхнічна транспарціроўка гэтай сыравіны можа быць пачата ўжо сёння. У ААН учора павінны былі быць вызначаны цэны на іракскую нафту. Акрамя гэтага неабходна размясціць у Іраку назіральнікаў за выкананнем пагаднення. Рэальна экспарт нафты можа пачацца з сярэдзіны снежня.

***Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».***

*З ЮБІЛЕЕМ!*

## Святло і цяпло «зоркі» Марыі Захарэвіч

...У зале стаяла мёртвая цішыня. А са сцэны ў напружаныя, засяроджаныя твары гледачоў скіроўваўся пранізлівы, па-жаночы непаўторны позірк, які, здавалася, адрасоўваўся не толькі ўсім ім разам, але і кожнаму паасобку. А яшчэ гучаў маналог — моцны, мужны, непаўторна шчымлівы:

«...Ідучы на спачын, запытай сябе сам: «Што ты зрабіў сёння?» Падвядзі вынікі спраў сваіх. Можа, чужое проса вытаптаў, пакрыўдзіў каго? Аблаяў? Пакараў? Звольніў з працы? Ці асудзіў? Каго? За што? Ці справядліва? Чым гэта павернецца для цябе, для людзей заўтра? Праз год? Праз дзесяць гадоў? А праз дваццаць гадоў? Успомніць аб гэтым не сорамна будзе табе? Перад сабой. Перад сынамі. І перад унукамі. «Што ты зрабіў сёння?» Дрэва пасадзіў? Проса пасеяў? Прыласкаў каго? Падахвоціў каго? Пасаду даў? Уладу над людзьмі ўручыў? Каму? Ці дастойнаму? Справядліва? Чым гэта павернецца для цябе, для людзей заўтра? Праз год? Праз дзесяць гадоў? І праз дваццаць гадоў? Успомніць аб гэтым не сорамна будзе? Перад сабой. Перад сынамі. І перад унукамі. Падводзячы вынікі справам сваім, жыццю свайму, каяцца не будзеш? Спытай сябе сам, ідучы на спачын: «Што ты зрабіў сёння?..»



Рэха ў зале падхапіла словы гераіні: «Спытай сябе сам!», «Спытай сябе сам!», «Спытай сябе сам!». І тут жа тое рэха злілося з бурнай авацыяй: гледачы шчыра, непадробна віталі Марыю Захарэвіч — выканаўцу ролі Наталлі Мікалаеўны, аднаго з галоўных персанажаў новай камедыі Андрэя Макаёнка «Пагарэльцы». Андрэй Ягоравіч узняўся на сцэну, нізка-нізка пакланіўся прыхільнікам свайго таленту, сарамліва пацалаваў руку Марыі Георгіеўны.

Авацыя выбухнула ў партэры і на балконах з новай, яшчэ большай сілай...

Як засведчылі мне тады, у 1980-м, сталыя наведвальнікі беларускіх сталічных тэатраў, так прэм'еру спектакля не прымалі не адно дзесяцігоддзе.

Прэм'ер у творчай біяграфіі Марыі Захарэвіч было нямала. Але яна ўсе іх добра памятае. Бо гэта не толькі часцінка жыцця, але і часцінка сэрца, добры кубаметр душэўнай сілы і энергіі... Яшчэ будучы студэнткай чацвёртага курса Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, яна сыграла сваю першую прафесіянальную ролю — Галі Жураўкі ў цудоўнай лірычнай п'есе Івана Мележа «Пакуль вы маладыя». З таго часу — роўна 40(!) гадоў — яна сярод купалаўцаў.

Лёс падараваў ёй шчасце жыць, вучыцца і працаваць сярод такіх жа, як і сама Марыя Георгіеўна, людзей: шчырых, сумленных і праведных. Яшчэ ў час вучобы ў школе адзін з настаўнікаў параіў ёй пайсці вучыцца «на актрысу». І яна пайшла. Пабойваліся бацькі за сваю адзіную дачушку: як жа так, такой малечай, з далёкага Нарачанскага краю — і адразу ў Мінск, ды яшчэ ў тэатральны... Але таты і мамы — хаця і рэдка — ды, здараецца, памыляюцца. Калі пабачылі аднаго разу ўвачавідкі, у якія рукі трапіла іхняя Маша, — сэрцы супакоіліся, душы зарадаваліся...

Яе настаўнікам у інстытуце быў **Сам** Канстанцін Саннікаў. Толькі яму ўласцівымі пачуццямі і інтуіцыяй адчуў, убачыў і зразумеў Канстанцін Мікалаевіч тыя неймаверна вялікія патэнцыяльныя магчымасці і рэзервы акцёрскага таленту Захарэвіч. Адчуў, убачыў, зразумеў — і зрабіў усё магчымае, а часам і неверагоднае, каб паставіць гэты талент на ногі, развіць і ўдасканаліць, даць яму дарогу.

А ў тэатры! У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы — тагачасным і сённяшнім флагмане нашага нацыянальнага мастацтва — яна трапіла ў асяроддзе (не, не ў асяроддзе, а ў сапраўдную сям'ю!) выдатных **Майстроў.** Імёны Глеба Глебава, Стафаніі Станюты, Леаніда Рахленкі чаго былі вартыя! Крышачку раней за Марыю, а часам і побач з ёю ва ўсю моц расцвітаў талент Галіны Макаравай, Віктара Тарасава, Мікалая Яроменкі... Вучыцца і самастойна ўдасканальвацца было ў каго. І Марыя Захарэвіч раскрылася, выявілася, знайшла сваё, адметнае і непаўторнае, месца ў гэтым сапраўдным сузор'і. Сузор'і ж, як вядома, складаюцца з **Зорак**.

Пасля Галі Жураўкі былі ролі ў п'есах Пятра Васілеўскага і Івана Шамякіна, Віктара Розава і Максіма Горкага, Аляксандра Карнейчука і Мікалая Рошчына, Андрэя Макаёнка і Надара Думбадзе, Івана Чыгрынава і Аляксея Дударава... Ролі розныя, такія непадобныя: станоўчыя і адмоўныя, з «характарам» і лёгкадумныя, галоўныя і другарадныя. Аднак актрыса не дзяліла і не дзеліць іх зараз. Для яе ўсе яны — галоўныя ў галоўным — у **Жыцці**.

Кажуць, у спектаклях артысты «іграюць». Так, мабыць, яно і ёсць. Але адносна Марыі Захарэвіч я гэтага не сказаў бы. Яна не іграе на сцэне, яна на сцэне **жыве...**

Як і кожная жаночая душа — характар Марыі Георгіеўны паэтычны, бязмежна таямнічы, я сказаў бы — багаты і крынічна чысты. Са спектакля ў спектакль, з тэлепастаноўкі ў тэлепастаноўку, з радыёп'есы ў радыёп'есу — яна нясе **святло**. Святло, акрамя пералічаных вышэй якасцей, багатае яшчэ і непараўнальнай жаночай шчырасцю, вернасцю, праўдалюбствам, наіўнасцю. Ох ужо гэтая жаночая душа — незразумелая, неразгаданая — у жыцці і на сцэне!

У Марыі Георгіеўны — юбілей. Вялікі і светлы. Яе кожнаму кроку — у жыцці і на сцэне — шчыра і непадробна — радуюцца сотні сяброў і прыхільнікаў: знаёмых і зусім незнаёмых, але — **верных**. У п'есе Надара Думбадзе «Закон вечнасці» вуснамі сваёй гераіні (не выпадкова ж супадаюць іхнія імёны — гераіні і выканаўцы!) Марыя Захарэвіч сцвярджае: «Я ўваскрэсла ў любві!». Калі гэта так, Марыя Георгіеўна, дзякуй Богу! І памятайце адно: Любоў да Вас — **усенародная**!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*МЕРКАВАННЕ*

## Погляд з Савета Еўропы на сітуацыю на Беларусі

Учора завяршыўся візіт дэлегацыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Дэлегацыя прыбыла для кансультацый з рознымі палітычнымі сіламі Беларусі.

Як заявіў кіраўнік дэлегацыі, намеснік старшыні ПАСЕ Тадэвуш Івінскі, на Беларусі стварылася унікальная сітуацыя — функцыянуюць два парламенты. Але, як падкрэсліў Т. Івінскі, ПАСЕ лічыць легітымным той парламент, які знаходзіцца ў Авальнай зале. У будучым адносіны паміж Беларуссю і ПАСЕ могуць развівацца па двух сцэнарыях — альбо, на думку Т. Івінскага, Беларусь страціць статус «спецыяльна запрошанага» і заяўка Беларусі на ўступленне ў Савет Еўропы прыпыняецца, альбо працэс уступлення будзе працягвацца, і тады ПАСЕ, натуральна, будзе мець справу з раней выбранай парламенцкай дэлегацыяй.

Т. Івінскі яшчэ раз выказаў пункт погляду ПАСЕ на сітуацыю ў Беларусі: трэба прызнаць кансультатыўнасць рэферэндуму, усім галінам улады сесці за стол перамоў і ўдакладніць Канстытуцыю, паколькі з прэзідэнцкім варыянтам катэгарычна не згодна пастаянная Камісія ПАСЕ «Да дэмакратыі праз права».

Дэлегацыя ПАСЕ мела сустрэчу з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, які, па словах Т. Івінскага, цікавіўся канкрэтнай датай уступлення Беларусі ў СЕ. Прэзідэнту было сказана, што Беларусь апынецца там, як толькі стане адпавядаць стандартам дэмакратыі, якія прад'яўляюцца Саветам Еўропы да краін-удзельніц. Але дэлегацыя ПАСЕ заявіла, што «цяперашні курс ставіць пад пагрозу ўступленне Беларусі ў Савет Еўропы».

**Таццяна КАЛІНОЎСКАЯ.**

## Пётр КАЗЛОЎ:

# «СЁННЯ ГАНДАЛЬ ПЕРАЖЫВАЕ ДАЛЁКА НЕ ЛЕПШЫЯ ЧАСЫ, АЛЕ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЦЯЖКАСЦІ, МЫ ІМКНЁМСЯ РАБІЦЬ УСЁ МАГЧЫМАЕ Ў ІМЯ ПАКУПНІКА»

**Гандаль на сучасны момант, бадай, адзінае, што разам з палітыкай турбуе людзей штодзень. Але калі палітычныя дэбаты можна хоць на нейкі час пакінуць, як кажуць, «па-за кадрам» (не чытаць газет, не слухаць радыё, не глядзець тэлебачанне), дык ад рэгулярных наведванняў магазінаў, на жаль, не схаваешся: есці хочацца заўсёды, да таго ж трэба апранацца, мець абутак і г. д. Так, зараз менавіта гандаль з'яўляецца тым месцам, дзе кожны сам можа зрабіць высновы і аб сваім сямейным дабрабыце, і аб эканамічным стане краіны ўвогуле, паколькі ў Беларусі гэтая галіна ў асноўным належыць дзяржаве і дзе, адпаведна, як у люстэрку, адбіваюцца ўсе яе плюсы і мінусы.**

**Зразумела, пакупніку няма справы да сувязі паміж прычынай і вынікам: было б што, найперш, з'есці самому і сям'і, не хадзілі б дзеці распранутымі, а «вышэйшымі матэрыямі» няхай займаюцца тыя, каму гэта належыць па адпаведнай пасадзе. Натуральна, радавы спажывец тут у нечым мае рацыю, але, з іншага боку, не трэба думаць, што сёння гандаль займаецца толькі простай канстатацыяй уласных недахопаў. Так, цяжкасці ёсць (як, дарэчы, і іх прычыны — аб'ектыўныя або суб'ектыўныя), але галіна прыкладае немалыя намаганні па стабілізацыі сітуацыі. Пацвярджэннем таму стала і праведзеная на мінулым тыдні рэдакцыяй «Звязды» «прамая лінія» з удзелам міністра гандлю краіны Пятра Афанасьевіча КАЗЛОВА і яго першага намесніка Міхаіла Міхайлавіча ЕЎТУХОЎСКАГА. Шчыра кажучы, рыхтуючыся да правядзення «прамой лініі», я меркаваў, што пытанні закрануць у асноўным галоўную тэму мінулых тыдняў — забяспечанасць насельніцтва прадуктамі харчавання і цэны на іх. Яны, зразумела, былі, але разам з тым нельга не адзначыць даволі шырокі спектр іншых пытанняў, якія турбуюць сёння грамадзян і на якія шчыра адказвалі госці «Звязды»...**



**— Алё, «прамая лінія»? Турбуе Людміла Барысаўна Зоткіна з Мінска, эканаміст па адукацыі. У мяне да міністра гандлю такое пытанне: што сёння робіцца з цыгарэтамі айчыннай вытворчасці, чаму яны знікаюць з магазінаў, а потым з'яўляюцца ў камерсантаў, але ўжо ўдвая даражэй? Мой муж шмат курыць, таму цікавіць і пытанне, ці будзе ўзнімацца кошт айчынных цыгарэт у бліжэйшы час?**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Паважаная Людміла Барысаўна! Як вам, напэўна, вядома, цэны на айчынныя цыгарэты не змяняліся ўжо даволі працяглы час, а між тым яны непарыўна звязаны з курсам долара, паколькі тытунь да нас трапляе з-за мяжы. А які зараз курс долара, вы, думаю, таксама ведаеце. Гэта першая прычына. Па-другое, і тут я з вамі цалкам згодзен, у магазінах сёння ідзе скупка танных цыгарэт, якія потым камерсанты або бабулькі прапануюць ужо за двайную «таксу». Напрыклад, па нашых падліках, за кастрычнік у Мінск паступіла цыгарэт у пяць разоў больш, чым за адпаведны месяц летась! Ці ведаеце вы, што ў Расіі цана беларускіх цыгарэт у 2—2,5 раза большая, чым у нас? Вы паглядзіце, як адрэагавалі «карабейнікі» на курс долара: калі раней пачак «Мальбара» каштаваў 13 тысяч, дык сёння — 25—26 тысяч. Таму па старых цэнах і пры такіх аб'ёмах спажывання сёння мы не ў стане задаволіць рынак краіны айчыннымі цыгарэтамі. У сувязі з гэтым кошт «паліва» для курцоў будзе крыху павялічаны. Дарэчы, хачу вас папярэдзіць, што сёння ў дзяржгандлі вы таксама можаце сустрэць айчынныя цыгарэты па цэнах, як у камерсантаў ці бабуль. Ніякіх парушэнняў тут няма, бо гэты тавар не з фабрыкі і базы «Белбакалея», а ад камерцыйных структур. Пры адсутнасці паставак ці запасаў на бягучы момант дырэктар гандлёвай кропкі з мэтай папаўнення асартыменту можа ўзяць іх у камерсантаў, але, адпаведна, і прадаваць іх будзе крыху па іншых цэнах.

**— Пётр Афанасьевіч? Вам тэлефануе Таццяна Германовіч з Заслаўя, хатняя гаспадыня. Калі ласка, адкажыце, як мне быць: у магазіне немагчыма набыць дзіцячую куртку, увогуле дзіцячае адзенне...**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Слушны званок, Таццяна, дзякуй. Справа ў тым, што ў Заслаўі магазіны належаць спажывецкай кааперацыі. Рыхтуючыся да «прамой лініі», я прадбачыў верагоднасць менавіта такіх пытанняў з райцэнтраў, таму напярэдадні меў гутарку са старшынёй спажыўкааперацыі Віктарам Уладыкам. Сёння ў іх склалася цяжкае фінансавае становішча, таму яны вярнуліся да былой сістэмы заявак. Скажам, калі патрэбная вам рэч адсутнічае ў магазіне ці секцыі, (а заўсёды хочацца выбраць і больш таннае, і больш прыгожае), вы павінны пакінуць там заяўку, або нават некалькі заявак. Як толькі неабходны тавар паступіць, вам ці патэлефануюць, ці дашлюць паведамленне па пошце.

**— Алё, у мяне пытанне наконт «чаўнакоў». Мой муж займаецца менавіта такім бізнесам і мы крыху напалоханы магчымым павелічэннем ставак падаткаў, як гэта нядаўна адбылося ў Расіі. Тады работу ледзь не страцілі мільёны людзей. Калі ласка, ці прадбачацца якія-небудзь змены ў гэтым напрамку ў Беларусі? Дарэчы, як вы ўвогуле ставіцеся да «чаўночнага бізнесу»? Дзякуй, вам тэлефанавала Жанна Пятрэнка з Мінска.**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Супакойцеся, Жанна, ніякага павелічэння падаткаў пакуль не будзе, прынамсі, дзеючыя фінансавыя стаўкі падаткаў нідзе не абмяркоўваліся. Так што поспехаў вам і вашаму мужу. Лічу, што ў цяперашніх умовах вы працуеце не толькі для сябе, але і для іншых. «Чаўночны гандаль» імгненна рэагуе на патрэбы рынку, дазваляючы ў пэўнай ступені выпраўляць хібы дзяржгандлю. Не сакрэт, што ў магазінах і на рынках сёння рэалізуецца прыкладна аднолькавы аб'ём нехарчовых тавараў. Адзінае, што хацеў бы зазначыць: працаваць трэба цывілізавана, выконваючы ўсе патрабаванні гандлю ў адносінах да пакупніка.

**— «Прамая лінія»? Прадпрымальнік з Мінска турбуе, Сяргей Федаровіч. Чуў, што збіраюцца ўзняць стаўкі на арэнду, прычым у 4—6 разоў. Ці праўда гэта і ці не адаб'ецца гэтая мера на кошце прадукцыі? Ці закране гэта камерсантаў?**

**Міхаіл ЕЎТУХОЎСКІ:** — Што датычыцца павелічэння арэндных ставак, пытанне зараз разглядаецца, але канчатковыя памеры іх яшчэ не вызначаны. У адпаведнасці з указам Прэзідэнта памеры арэнднай платы павінны быць аднолькавымі для прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці. З гэтай нагоды створана спецыяльная камісія, якая ўсебакова разглядае дадзенае пытанне. Але ўжо зараз магу зазначыць, што памеры арэндных ставак на цане прадукцыі адбівацца не павінны, паколькі арэндная плата адносіцца на выдаткі абарачэння і будзе адлюстроўвацца ў фінансавых выніках гандлёвага прадпрыемства. Таксама магу сказаць, што стаўкі будуць прымальнымі, не будзе такога становішча, калі выдаткі абарачэння будуць перавышаць валавы даход.

**— Пётр Афанасьевіч! Да вас звяртаецца студэнтка шостага курса медінстытута. Скажыце, чаму ў магазінах няма таннага імпартнага віна?**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Тут сапраўды ёсць праблема. Справа ў тым, што Беларусь набывае зараз імпартныя віны па даволі высокай адпускной цане — як гатовую прадукцыю. Дадайце сюды акцыз як на імпартную прадукцыю, да таго ж пяцідзесяціпрацэнтную гандлёвую надбаўку, што прымяняецца ў мэтах абароны айчыннага рынку ад увозу замежнай прадукцыі — і вы атрымаеце лічбу, далёкую ад жаданай. Натуральна, такое становішча нас не задавальняе, таму зараз робяцца пэўныя захады, каб ужо ў недалёкай будучыні добрыя імпартныя віны былі па кішэні большасці пакупнікоў. У прыватнасці, вядуцца перамовы аб закупцы і ўвозе ў краіну він у выглядзе не гатовай прадукцыі, а вінаматэрыялаў. Пры гэтым дзейнічаюць ужо іншыя падаткі, што дазволіць знізіць цану. Разліў, маркіроўка, упакоўка будуць весціся ў нас і будуць не горшымі, чым за мяжой.

**— Алё, гэта Ігар Адамовіч, журналіст з Чэрвеня. Пётр Афанасьевіч, вы нядаўна заявілі, што абвальнага павелічэння кошту асноўных прадуктаў харчавання не будзе, цэны будуць расці «мякка». Ці ёсць нейкая мяжа нават пры такім павелічэнні? Скажам, апошняй падаражэла гарэлка, прычым адразу на тры тысячы рублёў. Верагодна, гэта не апошні «скачок»...**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Давайце параўнаем, колькі каштавала гарэлка напачатку года і цяпер. Пры колішнім курсе долара атрымлівалася, што 2-3 долары (калі браць забыты ўжо курс 11.500 рублёў), зараз жа пры той самай рублёвай цане яна «цягне» толькі 1,3 долара. Таму, зразумела, яна будзе павялічвацца з улікам курса долара, а таксама інфляцыі. Але, паўтаруся, ніякіх «абвальных» цэн не будзе.

**— Да вас звяртаецца пенсіянерка з Мінска Валянціна Аляксандраўна Ільюшына. Патлумачце, калі ласка, чаму ў магазінах розная цана на «Нарачанскі» хлеб? Ён жа паўсюдна аднолькавы...**

**Міхаіл ЕЎТУХОЎСКІ:** — На хлеб масавых гатункаў і батоны цэны аднолькавыя і стабільныя. У адносінах да іх прымяняецца гандлёвая нацэнка ў памеры 10 працэнтаў. Што датычыцца палепшаных гатункаў хлеба («Нарачанскі», «Раўбічы» і інш.), то тут сітуацыя крыху іншая. Каб пакрыць выдаткі па вытворчасці хлеба масавых гатункаў, таго ж, скажам, «Нарачанскага», гандаль мае права прымяняць нацэнку ў памеры ўжо 30 працэнтаў, хаця звычайна гэтая лічба складае 15—20 працэнтаў. З гэтай нагоды кошт хлеба ў розных магазінах можа розніцца на 100—200 рублёў, не больш. Іншай прычынай могуць стаць розныя транспартныя выдаткі. Як вядома, у Мінску шэсць хлебапякарных заводаў, і ў залежнасці ад таго, адкуль паступіў прадукт, цана таксама можа крыху розніцца.

**— Мяне завуць Людміла Аляксееўна, я тэлефаную з Мінска. Сёння ў магазіне прадавец на касе запатрабавала, каб я расчыніла перад ёй сумку. Мяне вельмі абурае, што, не маючы на тое падстаў, мяне прыніжаюць падазрэннем. Ці мае права прадавец так сябе паводзіць?**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Калі раптам узнікла такая сітуацыя (работнікі магазіна ці ахова заўважылі, што пакупнік паклаў у сумку тавар і «забыўся» разлічыцца, але толькі менавіта ў такім выпадку), пакупніка павінны запрасіць у асобны пакой і ў прысутнасці міліцыянера папрасіць адчыніць сумку. Тое, як з вамі абышлася прадавец на касе, лічыцца юрыдычна неправамернымі дзеяннямі. Зразумела, гэта закранае годнасць і гонар многіх людзей, у тым ліку і вашы, шаноўная Людміла Аляксееўна. Таму, каб пазбегнуць непаразуменняў, недарэчнасцей, вельмі раю ў магазінах самаабслугоўвання пакідаць рэчы ў камеры захоўвання.

**— Корзун Ігар Іванавіч. Ходзяць чуткі, што праз месяц-другі пасля рэферэндуму з паліц магазінаў знікнуць амаль усе прадукты харчавання. Не маглі б вы, Пётр Афанасьевіч, кампетэнтна адказаць на гэтае пытанне?**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Адразу заспакою вас, што ў нас дастатковыя запасы прадуктаў харчавання, каб пазбегнуць як дэфіцыту, так і размеркавання іх па картках, не ўводзіць нарміравання. Скажам, мяса зараз на холадакамбінатах у Мінску знаходзіцца 800 тон, ёсць запасы сыроў, сухога малака, масла. Не забывайцеся, што нарыхтоўка многіх прадуктаў жывёлагадоўлі толькі-толькі пачынаецца — яна вядзецца менавіта ў асенне-зімовы сезон, калі жывёлу ўжо немагчыма пасвіць. Гарантую, што з тымі запасамі прадуктаў, якія ёсць, мы можам пражыць да наступнай вясны. Зрэшты, калі будзе неабходнасць, мы заўсёды зможам набыць неабходнае ў суседніх краінах, скажам, у прыбалтыйскіх або на Украіне. Чаму пайшлі чуткі аб магчымым дэфіцыце? Мяркую, таму, што гандаль быў вымушаны прыгадаць адпускныя нормы (прашу не блытаць з карткамі). Але гэта робіцца для таго, каб абараніць рынак ад вывазу харчавання за мяжу краіны, а не ад няхваткі тых ці іншых тавараў. Напрыклад, колькі вам асабіста ці для сям'і патрэбна масла? Пачак ці два — не больш. Але ж не скрынка, праўда? А бяруць жа, здараецца, менавіта ў такой колькасці. Куды яно потым трапіць, здагадацца няцяжка.

**— Скажыце, ці вядзецца кантроль за вагавымяральнай тэхнікай на рынках? Вельмі не хочацца, каб цябе абдурылі, да таго ж — за ўласныя грошы. Дзякуй, вас турбавала Паліна Крылова з Маладзечна.**

**Міхаіл ЕЎТУХОЎСКІ:** — Паколькі ўсю вагавымяральную тэхніку прадастаўляе рынак, ён найперш і нясе адказнасць за яе дакладнасць. На гэта ў іх ёсць і адпаведныя кантралюючыя службы. Акрамя таго, двойчы ў год уся вагавымяральная тэхніка праходзіць спецыяльны кантроль. Зразумела, многае залежыць і ад добрасумленнасці самога прадаўца, але да кожнага кантралёра таксама не прыставіш, праўда? А ўвогуле я параіў бы вам набываць харчаванне не на рынках, а ў магазінах. Сапраўды, крыху даражэй, затое без падману.

**— Да вас звяртаецца ваеннаслужачы Аляксандр Міхайлавіч Мазур з Уручча. Набыў сабе гадзіннік «Палёт», а ён зламаўся. Пайшоў у майстэрню, а там яго браць адмовіліся: маўляў, няма запчастак. Што мне рабіць? Дарэчы, хацелася б даведацца, якое ў нас увогуле становішча з імпартнымі таварамі ў плане іх гарантыйнага абслугоўвання і рамонту? І яшчэ, калі ласка, ці не забароняць у нас «чаўночны» бізнес? Як-ніяк, але на рынку і выбар большы, і цэны меншыя...**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Кожны магазін, які бярэ ў продаж пэўны тавар, павінен заключыць дагавор з пастаўшчыком на яго гарантыйнае абслугоўванне. Калі гандлёвае прадпрыемства гэтага не зрабіла, што ж, яно павінна несці адказнасць. Аляксандр Міхайлавіч, у магазіне вам павінны або абмяняць гадзіннік на спраўны, або вярнуць грошы. Што датычыцца другога пытання... З аднаго боку, вядома, павелічэнне падаткаў для «чаўнакоў» станоўча адбілася б на бюджэтніках — настаўніках, урачах і г. д. Але ж вы самі абмовіліся, што на рынках і цэны меншыя, і выбар большы. Таму ад «чаўнакоў», думаецца, карысць усё ж ёсць, і досыць вялікая. Навошта ж тады забараняць іх бізнес?!

**— Раіса Сіманенка, Мінск. Чаму на адны і тыя ж харчовыя тавары розныя цэны, з чым гэта звязана?**

**Міхаіл ЕЎТУХОЎСКІ:** — Гандлёвае прадпрыемства можа самастойна ўстанаўліваць узровень нацэнкі, зразумела, да адпаведных межаў. Але ёсць і фінансавыя памеры нацэнак. Скажам, на хлеб масавых гатункаў, цана на які застаецца нязменнай даволі працяглы час; з лютага гэтага года не змяніўся і кошт цукру. Як правіла, ён аднолькавы паўсюдна і складае 9.600—10.000 рублёў. Дарэчы, цана цукру застанецца ранейшай да канца года. Міністэрства гандлю правяло неабходныя перамовы з усімі цукровымі заводамі і атрымала іх пацвярджэнне аб захаванні цаны на гэты прадукт на існуючым узроўні.

**— Мікалай Агейчык. Патлумачце, куды знікла фасаваная смятана? У чым тут справа?**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Вы маеце рацыю, яна сапраўды на нейкі час знікла з магазінаў. Замест яе будзе прадавацца смятана з бітонаў. Да гэтага выпускам фасаванага прадукту ў Мінску займаліся некалькі малочных заводаў, якія выпускалі яе ў поліэтыленавых пакетах і полістыролавых шклянках. Але апошнім часам аб'ём вывазу менавіта фасаванай смятаны за межы Беларусі настолькі павялічыўся, што яна пачала знікаць з продажу з катастрафічнай хуткасцю. Каб прыпыніць гэтую з'яву, і было прынята часовае рашэнне рэалізоўваць смятану толькі з бітонаў. Паверце, запасаў у нас хапае, гэта зусім не абумоўлена нейкім дэфіцытам, а найперш — абаронай уласнага рынку краіны.

**— Турбуе Іван Сакалюк. У мяне да міністра адзінае пытанне: чаму ў магазінах так шмат харчовых тавараў замежнай вытворчасці?**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Гэта не зусім правільна. Калі ўзяць аб'ём айчынных тавараў у цэлым па краіне, дык бачна, што ён займае 90 працэнтаў у аб'ёме рознічнага тавараабароту. Не трэба толькі блытаць з асартыментам, дзе сапраўды іх можа быць шмат. Аднак у плане рэалізацыі на першым месцы, безумоўна, ідуць менавіта айчынныя тавары.

**— Чула, што ў снежні ў Мінску адчыняюцца тры рэстараны хуткага харчавання «Макдональдс». Гэта, вядома, цікава, але ці будуць там цэны па кішэні «простым смяротным»? Студэнтка Ніна Шлапак.**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Так, у снежні сапраўды будуць адчынены першыя тры рэстараны хуткага харчавання «Макдональдс». Усяго ж амерыканцы з цягам часу плануюць адкрыць на ўсёй тэрыторыі Беларусі 60 такіх устаноў, уклаўшы ў гэтую справу 360 млн. долараў. Ці можна абмяркоўваць пытанне «што гэта нам дасць»? Ва ўсіх краінах свету акрамя нацыянальнай кухні прынята мець і замежныя: кітайскую — у Маскве і рускую — у Пекіне. Гэта як знаёмства з іншай культурай, звычаямі. Акрамя таго, у сферы абслугоўвання гэтых рэстаранаў будзе занята каля 7 тысяч чалавек. Будаўніцтва таксама вядзецца айчыннымі арганізацыямі, у перспектыве плануецца выкарыстоўваць мясцовыя будматэрыялы (пакуль яны часткова завозяцца). Пакрысе будзе створана цэлая інфраструктура, якая цалкам возьме на сябе забеспячэнне рэстаранаў мясам, бульбай і г. д. Што датычыцца вашага пытання «Ці будзе наведванне гэтых рэстаранаў па кішэні пакупніку?» думаю, людзі ў іх пойдуць. Амерыканцы добра ведаюць аб узроўні жыцця большасці насельніцтва, таму высокія цэны цалкам выключаны, бо ў гэтым выпадку іх ніхто наведваць не будзе. Не забывайцеся: рэстараны ствараюцца менавіта як прадпрыемствы хуткага харчавання для шырокага кола наведвальнікаў...

**— Чула, што інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны збіраліся замацоўваць за харчовымі магазінамі, дзе яны змаглі б набываць прадукты па крыху меншых цэнах. Куды для гэтага трэба звярнуцца? З павагай мінчанка, удзельніца ВАВ Лідзія Іванаўна Хурсік.**

**Пётр КАЗЛОЎ:** — Мы цудоўна разумеем, у якім становішчы апынуліся зараз інваліды. Але напярэдадні чакаемага павелічэння арэндных ставак, якія могуць прывесці да росту выдаткаў, мы вымушаны пакуль прыпыніць гэта пачынанне. Тым больш, што вось-вось пачнецца зіма, узрастуць выдаткі на паліва, электрычнасць. У такой сітуацыі, калі гандаль перажывае нялёгкія часы, было б проста недаравальна нешта паабяцаць інвалідам, а потым не выканаць з-за эканамічнага бязладдзя. Не хвалюйцеся, ідэя з замацаваннем інвалідаў за харчовымі магазінамі проста адкладзена на нейкі час. Дасць Бог, крыху станем на ногі і тады абавязкова яе рэалізуем.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў да друку Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Закон Рэспублікі Беларусь

## Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы

Кіруючыся прынцыпамі гуманізму, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

**Артыкул 1.** Вызваліць ад пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі, а таксама ад пакаранняў, не звязаных з пазбаўленнем волі, асуджаных:

а) удзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы;

б) жанчын і адзінокіх мужчын, якія маюць непаўналетніх дзяцей або дзяцей-інвалідаў;

в) цяжарных жанчын і жанчын, якія маюць на выхаванні дзяцей да трохгадовага ўзросту (акрамя ўчыніўшых злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі 100, 101 і 106 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь);

г) асоб, якія прымалі ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне, а таксама ўзнагароджаных ордэнамі і медалямі СССР за самаадданую працу ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны;

д) мужчын, старэйшых за 60 гадоў, і жанчын, старэйшых за 55 гадоў;

е) інвалідаў I і II групы;

ж) асоб, якія прымалі ўдзел у выкананні інтэрнацыянальнага абавязку;

з) асоб, якія атрымалі раненні (кантузіі) пры выкананні службовых абавязкаў у перыяд ваеннай службы ва Узброеных Сілах, у пагранічных, унутраных і чыгуначных войсках, а таксама ў перыяд работы ў праваахоўных органах.

**Артыкул 2**. Вызваліць ад пакарання асоб, якія ўчынілі злачынствы ва ўзросце да 18 гадоў, асуджаных да пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў уключна, калі яны раней не адбывалі пакарання ў выхаваўча-працоўных калоніях.

**Артыкул 3**. Вызваліць ад пакарання асоб, якія ўчынілі злачынствы ва ўзросце да 18 гадоў, асуджаных да пазбаўлення волі на тэрмін звыш трох, але не больш чым пяць гадоў уключна, калі яны адбылі не менш чым адну трэць назначанага тэрміну пакарання і раней не адбывалі пакарання ў выхаваўча-працоўных калоніях.

**Артыкул 4**. Вызваліць ад пакарання асоб, асуджаных за злачынствы, учыненыя па неасцярожнасці, на тэрмін да пяці гадоў уключна, калі яны адбылі не менш чым адну трэць назначанага тэрміну пакарання.

**Артыкул 5.** Вызваліць ад пакарання ваеннаслужачых, асуджаных да накіравання ў дысцыплінарны батальён, калі яны адбылі не менш чым адну трэць назначанага тэрміну пакарання.

**Артыкул 6**. Вызваліць ад пакарання асоб, асуджаных да пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў уключна, калі яны адбылі не менш чым адну трэць назначанага тэрміну пакарання.

**Артыкул 7**. Вызваліць ад пакарання асоб, асуджаных да пазбаўлення волі на тэрмін звыш трох, але не больш чым пяць гадоў уключна, калі яны адбылі не менш чым палову назначанага тэрміну пакарання.

**Артыкул 8.** Не вызваляць ад пакарання асоб, пералічаных у артыкулах 1 — 7 гэтага Закона:

а) асуджаных за:

дзяржаўныя злачынствы (артыкулы 61—70, 74, $74^1$, 75, 76, 83, 84, часткі другая і трэцяя артыкула 85);

злачынствы супраць уласнасці (часткі трэцяя і чацвёртая артыкула 87, часткі другая, трэцяя і чацвёртая артыкула 88, артыкул 89, частка трэцяя артыкула 91, артыкул $91^1$, часткі другая і трэцяя артыкула 93, частка другая артыкула 96, часткі трэцяя і чацвёртая артыкула 141, часткі другая, трэцяя і чацвёртая артыкула 142, артыкул 143, часткі другая і трэцяя артыкула 145, частка другая артыкула 146);

злачынствы супраць жыцця, здароўя, свабоды і годнасці асобы (артыкулы 100, 101, 106, часткі другая, трэцяя і чацвёртая артыкула 115, артыкул $124^1$);

службовыя злачынствы (артыкул 166, частка другая артыкула 167, артыкулы 169, $169^1$, 170);

злачынствы супраць правасуддзя (частка другая артыкула 172, частка другая артыкула 173, частка другая артыкула 175);

злачынствы супраць парадку кіравання (артыкул $189^1$);

злачынствы супраць грамадскай бяспекі, грамадскага парадку і здароўя насельніцтва (часткі другая і трэцяя артыкула 201, артыкулы $208^2$, $213^1$, $213^3$, $219^1$—$219^4$);

воінскія злачынствы (пункт «б» артыкула 227, пункты «б» і «в» артыкула 229, артыкул 231, пункт «в» артыкула 233, пункт «б» артыкула 240, пункт «б» артыкула 249) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь;

б) прызнаных асабліва небяспечнымі рэцыдывістамі;

в) якія злосна парушаюць устаноўлены рэжым у час адбывання пакарання;

г) якія раней былі судзімыя больш чым два разы да пазбаўлення волі за наўмысныя злачынствы, а таксама якія раней былі судзімыя да пазбаўлення волі за ўчыненне злачынстваў, указаных у пункце «а» гэтага артыкула;

д) якія раней вызваляліся ад пакарання ў парадку памілавання або амністыі і зноў учынілі наўмысныя злачынствы;

е) якім пакаранне ў выглядзе смяротнай кары заменена ў парадку памілавання пазбаўленнем волі;

ж) якія не прайшлі поўнага курса лячэння ад алкагалізму, наркаманіі і венерычных захворванняў.

**Артыкул 9**. Вызваліць ад пакарання асоб, пералічаных у артыкулах 1, 2, 3, 5, 6, 7 гэтага Закона, асуджаных за злачынствы, прадугледжаныя часткамі трэцяй і чацвёртай артыкула 87 (акрамя асоб, прызнаных асабліва небяспечнымі рэцыдывістамі), часткай трэцяй артыкула 91, артыкулам $91^1$ (учыненыя без прымянення насілля або пагрозы прымянення такога насілля), часткай трэцяй артыкула 141 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, калі яны поўнасцю пакрылі прычынены злачынствам урон на дзень разгляду матэрыялаў аб прымяненні амністыі.

**Артыкул 10**. Не вызваляць асоб, якія падпадаюць пад дзеянне гэтага Закона, за выключэннем асоб, указаных у артыкуле 1, ад дадатковых мер пакарання, назначаных судом.

**Артыкул 11**. Скараціць на адзін год тэрмін пакарання асуджаным, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі, за выключэннем асоб, указаных у пунктах «б», «в», «д», «е» артыкула 8 гэтага Закона, а асуджаным, у якіх да заканчэння тэрміну пакарання застаецца менш чым адзін год, — на частку тэрміну пакарання, што засталася.

**Артыкул 12**. Спыніць вядзенне па крымінальных справах, якія знаходзяцца ў вядзенні органаў дазнання і папярэдняга следства, і крымінальныя справы, не разгледжаныя судамі, аб злачынствах, учыненых да ўступлення ў сілу гэтага Закона асобамі, пералічанымі ў артыкуле 1, за выключэннем асоб, учыніўшых злачынствы, указаныя ў пункце «а» артыкула 8, а таксама асоб, названых у пунктах «б», «г», «д» артыкула 8.

**Артыкул 13**. Зняць судзімасць з асоб, вызваленых ад пакарання на падставе артыкула 1 гэтага Закона.

**Артыкул 14**. Пад дзеянне гэтага Закона падпадаюць асобы, асуджаныя судамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15**. Пад дзеянне гэтага Закона падпадаюць асобы, якія ўчынілі злачынствы да дня ўступлення ў сілу дадзенага Закона.

**Артыкул 16**. Пры прымяненні гэтага Закона:

а) пад дзеянне пункта «а» артыкула 1 падпадаюць асобы — удзельнікі ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і пацярпеўшыя ад чарнобыльскай катастрофы, якія маюць на момант разгляду матэрыялаў аб прымяненні амністыі пасведчанні, выдадзеныя ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС»;

б) пад дзеянне пункта «б» артыкула 1 падпадаюць асобы, не пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, што маюць дзяцей-інвалідаў або дзяцей, якім на дзень уступлення ў сілу дадзенага Закона не споўнілася 18 гадоў:

жанчыны і мужчыны-ўдаўцы;

мужчыны, што выхоўваюць дзяцей, маці якіх пазбаўлены бацькоўскіх правоў;

мужчыны, якія выхоўваюць дзяцей і не знаходзяцца ў шлюбе;

в) пад дзеянне пункта «в» артыкула 1 падпадаюць жанчыны, якія маюць цяжарнасць на дзень уступлення ў сілу дадзенага Закона, і жанчыны, што маюць на выхаванні дзяцей, якім на дзень уступлення ў сілу Закона не споўнілася трох гадоў (акрамя ўчыніўшых злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі 100, 101 і 106 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь);

г) пад дзеянне пункта «г» артыкула 1 падпадаюць асобы:

якія служылі ў час Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў ва Узброеных Сілах СССР у якасці ваеннаслужачых або вольнанаёмных;

якія прымалі ўдзел у вайне ў складзе партызанскіх атрадаў, народнага апалчэння, знішчальных батальёнаў, а таксама падпольных арганізацый, што дзейнічалі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у час Вялікай Айчыннай вайны;

якія служылі ў якасці ваеннаслужачых або вольнанаёмных у часцях і злучэннях Узброеных Сіл СССР, што прымалі ўдзел у баявых дзеяннях супраць японскіх імперыялістаў у 1945 годзе;

усе іншыя асобы, узнагароджаныя медалём «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.» або медалём «За перамогу над Японіяй», а таксама прымаўшыя ўдзел у баявых дзеяннях па абароне інтарэсаў СССР у перыяд, што папярэднічаў Вялікай Айчыннай вайне або пасля яе заканчэння, якія маюць пасведчанні аб ільготах;

д) дзеянне пункта «г» артыкула 1 не распаўсюджваецца на асоб, пазбаўленых ва ўстаноўленым парадку ордэнаў і медалёў СССР;

е) пад дзеянне пункта «д» артыкула 1 падпадаюць мужчыны, якія дасягнулі 60 гадоў, і жанчыны — 55 гадоў на дзень уступлення ў сілу дадзенага Закона, а пры адсутнасці дакументаў, што пацвярджаюць дзень і месяц нараджэння, — мужчыны, якія нарадзіліся да 1937 года, і жанчыны, якія нарадзіліся да 1942 года;

ж) пад дзеянне пункта «е» артыкула 1 падпадаюць асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым парадку інвалідамі I і II групы на дзень уступлення ў сілу дадзенага Закона;

з) пад дзеянне пункта «ж» артыкула 1 падпадаюць асобы, якія прымалі ўдзел у выкананні інтэрнацыянальнага абавязку і знаходзіліся ў савецкіх кантынгентах, што ўдзельнічалі ва ўзброеных канфліктах за межамі СССР пасля заканчэння другой сусветнай вайны, пры пацвярджэнні гэтага дакументам, выдадзеным ва ўстаноўленым парадку;

і) пад дзеянне артыкулаў 4, 6, 7 падпадаюць асобы, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, умоўна асуджаныя да пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы і ўмоўна вызваленыя з месцаў пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы;

к) адбытая частка тэрміну пакарання, прадугледжаная артыкуламі 3, 4, 5, 6, 7, вылічваецца на дзень прыняцця дадзенага Закона;

л) пад дзеянне артыкула 11 падпадаюць асуджаныя, у адносінах да якіх прыгаворы ўступілі ў сілу на дзень прыняцця дадзенага Закона.

**Артыкул 17**. Адбыванне папраўчых работ без пазбаўлення волі спыняецца з дня вынясення органам унутраных спраў зацверджанай пракурорам пастановы аб прымяненні амністыі.

**Артыкул 18**. Пры прымяненні гэтага Закона да асоб, якім тэрмін пакарання раней скарочаны ў парадку памілавання або амністыі, трэба зыходзіць з тэрміну пакарання, устаноўленага ў адпаведнасці з актам памілавання або амністыі.

**Артыкул 19**. Пры прымяненні гэтага Закона не ўлічваюцца судзімасці, знятыя або пагашаныя ў парадку, устаноўленым артыкулам 54 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20**. У адпаведнасці з пунктам «д» артыкула 8 гэтага Закона амністыя не прымяняецца да асоб, якія раней вызваляліся ад пакарання (незалежна ад пагашэння або зняцця судзімасці) датэрмінова ў перыяд з 1987 па 1996 год у парадку памілавання або амністыі і якія зноў учынілі наўмысныя злачынствы.

**Артыкул 21**. Злоснымі парушальнікамі рэжыму ў час адбывання пакарання трэба лічыць асоб:

а) якія сістэматычна парушаюць устаноўлены рэжым адбывання пакарання і маюць два і больш непагашаныя або нязнятыя дысцыплінарныя спагнанні на дзень уступлення ў сілу гэтага Закона;

б) якія ўчынілі наўмысныя злачынствы ў час адбывання пакарання ў месцах пазбаўлення волі або ў перыяд абавязковага прыцягнення да працы на будоўлях і прадпрыемствах народнай гаспадаркі, а таксама асоб, якія пасля ўмоўна-датэрміновага вызвалення з месцаў адбывання пакарання ў парадку, прадугледжаным артыкулам 51 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, учынілі ў перыяд, што прыпадае на неадбытую частку пакарання, новыя наўмысныя злачынствы;

в) умоўна асуджаных да пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы і ўмоўна вызваленых з месцаў пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы і накіраваных у месцы пазбаўлення волі за парушэнне працоўнай дысцыпліны, грамадскага парадку або ўстаноўленых для іх правіл пражывання, а таксама асуджаных, накіраваных з папраўча-працоўных калоній-пасяленняў у папраўча-працоўныя калоніі іншых відаў, калі пасля вынясення вызначэння аб накіраванні ў папраўча-працоўную калонію прайшоў менш чым адзін год на дзень разгляду матэрыялаў аб прымяненні амністыі;

г) умоўна асуджаных з прымяненнем артыкула 43 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, калі яны ў перыяд выпрабавальнага тэрміну ўчынілі наўмысныя злачынствы і накіраваны для адбывання пакарання, назначанага прыгаворам, па падставах, прадугледжаных ва ўказаным артыкуле, калі з часу вынясення прыгавору суда на дзень разгляду матэрыялаў аб прымяненні амністыі прайшоў менш чым адзін год;

д) якія ўчынілі ў перыяд адтэрміноўкі выканання прыгавору (артыкул $44^1$ Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь) наўмысныя злачынствы і накіраваны для адбывання назначанага судом пакарання ў месцы пазбаўлення волі, дзе яны на дзень разгляду матэрыялаў аб прымяненні амністыі знаходзяцца пад вартай менш чым адзін год;

е) умоўна асуджаных з прымяненнем артыкула 43 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь і асуджаных з адтэрміноўкай выканання прыгавору (артыкул $44^1$ Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь), калі за дапушчаныя правапарушэнні яны накіраваны ў месцы пазбаўлення волі і на дзень разгляду матэрыялаў аб прымяненні амністыі знаходзяцца пад вартай менш чым адзін год;

ж) якія асуджаны да папраўчых работ без пазбаўлення волі і да поўнага адбыцця пакарання ўчынілі наўмысныя злачынствы або калі судом ім заменены неадбыты тэрмін папраўчых работ пакараннем у выглядзе пазбаўлення волі ў парадку, прадугледжаным артыкулам 28 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, калі на дзень разгляду матэрыялаў аб прымяненні амністыі яны знаходзяцца пад вартай менш чым адзін год.

**Артыкул 22**. Да асоб, якім назначана прымусовае лячэнне ад алкагалізму або наркаманіі ці якія праходзяць курс лячэння венерычнага захворвання, гэты Закон прымяняецца толькі пасля завяршэння курса лячэння.

Падставай для прызнання закончаным курса лячэння венерычнага захворвання асуджанага з'яўляецца медыцынскае заключэнне, а назначанага судом прымусовага лячэння ад алкагалізму або наркаманіі — вызначэнне суда аб спыненні прымусовага лячэння.

**Артыкул 23**. Ускласці выкананне гэтага Закона:

а) на органы, што ведаюць выкананнем пакарання, — у адносінах да асуджаных, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі, а таксама ў адносінах да асоб, умоўна асуджаных, умоўна асуджаных да пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы і ўмоўна вызваленых з месцаў пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы.

Прымяненне дадзенага Закона праводзіцца па пастанове начальніка папраўча-працоўнай установы, следчага ізалятара, спецкамендатуры, камандзіра дысцыплінарнай часці, узгодненай з наглядальнай камісіяй мясцовага выканаўчага і распарадчага органа і санкцыяніраванай пракурорам, а таксама па пастанове начальніка аддзела ўнутраных спраў, санкцыяніраванай пракурорам. Да ўказанай пастановы прыкладаецца даведка аб заахвочваннях і спагнаннях, асабовая справа асуджанага і іншыя дакументы, неабходныя для вырашэння пытання аб прымяненні амністыі;

б) на органы дазнання і папярэдняга следства — у адносінах да асоб, справы і матэрыялы аб злачынствах якіх знаходзяцца ў вядзенні гэтых органаў;

в) на суды:

у адносінах да асоб, справы і матэрыялы аб злачынствах якіх знаходзяцца ў вядзенні судоў і на дзень прыняцця дадзенага Закона не разгледжаны;

у адносінах да асоб, справы аб злачынствах якіх разгледжаны, але прыгаворы не ўступілі ў законную сілу, а таксама асоб, у адносінах да якіх прыгаворы ўступілі ў законную сілу, але не накіраваны для выканання на дзень прыняцця дадзенага Закона;

у адносінах да асоб, асуджаных да штрафу, калі да прыняцця дадзенага Закона штраф не спагнаны (пытанне аб прымяненні амністыі вырашае суд, які вынес прыгавор);

у адносінах да асоб, умоўна-датэрмінова вызваленых ад пакарання, і асоб, якім неадбытая частка пакарання заменена больш мяккім пакараннем да ўступлення ў сілу дадзенага Закона (пытанне аб прымяненні ўказанага Закона вырашае суд, які вынес вызначэнне аб прымяненні ўмоўна-датэрміновага вызвалення або замене неадбытай часткі пакарання больш мяккім пакараннем);

у адносінах да асоб, асуджаных з адтэрміноўкай выканання прыгавору, па прадстаўленню органа ўнутраных спраў, які ажыццяўляе кантроль за паводзінамі асуджанага;

г) на органы ўнутраных спраў:

у адносінах да асоб, якія асуджаны да пазбаўлення волі, але не знаходзяцца пад вартай, прыгаворы на якіх уступілі ў законную сілу, або асоб, умоўна асуджаных да пазбаўлення волі з абавязковым прыцягненнем да працы, але не накіраваных да месца работы;

у адносінах да асоб, якія адбываюць пакаранне ў выглядзе папраўчых работ без пазбаўлення волі.

**Артыкул 24**. Рашэнне аб прымяненні ці непрымяненні гэтага Закона прымаецца ў адносінах да кожнай асобы строга індывідуальна пасля праведзенай з ёй гутаркі і на падставе дакладнай ацэнкі матэрыялаў асабовай справы, даных аб паводзінах асуджанага і яго адносінах да працы за час адбывання пакарання.

Пры адсутнасці неабходных звестак аб асуджаным разгляд пытання аб прымяненні гэтага Закона адкладваецца да атрымання дадатковых матэрыялаў.

Органам, на якія ўскладзена выкананне гэтага Закона, прадастаўляецца права запытваць у адпаведных устаноў дакументы і іншыя матэрыялы, неабходныя для вырашэння пытанняў, звязаных з прымяненнем дадзенага Закона. Такія запыты павінны выконвацца неадкладна.

**Артыкул 25**. Рашэнні аб прымяненні гэтага Закона, прынятыя органамі дазнання і папярэдняга следства, органамі ўнутраных спраў, зацвярджаюцца пракурорам. Пры выкананні дадзенага Закона судамі ўдзел пракурора абавязковы.

**Артыкул 26**. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам забяспечыць:

а) арганізацыю своечасовага ўліку ўсіх асоб, вызваленых ад пакарання на падставе гэтага Закона, і аказанне ім дапамогі ў працаўладкаванні;

б) змяшчэнне ў дамы інвалідаў вызваленых ад пакарання інвалідаў і непрацаздольных асоб пенсіённага ўзросту, што не маюць сваякоў, якія маглі б іх узяць на сваё ўтрыманне.

Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам прыняць меры па своечасоваму ўзяццю на ўлік вызваленых ад пакарання на падставе гэтага Закона непаўналетніх пасля прыбыцця іх да месца жыхарства, іх працаўладкаванню або передачы пад кантроль бацькоў, органаў апекі і папячыцельства, змяшчэнню ў неабходных выпадках у дзіцячыя дамы, уладкаванню ў школы-інтэрнаты, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, па правядзенню сярод гэтых асоб выхаваўчай работы, недапушчэнню ўчынення імі новых злачынстваў.

**Артыкул 27**. Гэты Закон уступае ў сілу з моманту яго прыняцця і падлягае выкананню на працягу шасці месяцаў.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

5 лістапада 1996 г., г. Мінск.
№ 760—XIII.

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

**Выдаўцы «Кнігі рэкордаў Гінеса» пачалі збор фактаў, якія прызначаны для наступнага выпуску рэкордаў, які выйдзе ў свет у 1997 годзе. Першымі прэтэндэнтамі былі, натуральна, прадстаўнікі Брытаніі.**

Сабраўшыся ў лонданскім заапарку, яны прадэманстравалі свае дасягненні. Джон Эванс з графства Дэрбішыр, які сцвярджае, што валодае самай моцнай шыяй у свеце (яе аб'ём 60 см), паклаў на галаву сто цаглін. Другі джэнтльмен, 97-гадовы Лен Вейл-Анслоў, пакатаў маладзецку праканцыю на матацыкле прывабную бландзінку. Ён прэтэндуе на званне самага старога ў свеце матацыкліста. Да таго ж, нягледзячы на ўзрост, ён надзейны вадзіцель, і паліцыя і не думае пазбаўляць яго вадзіцельскіх правоў.

*«Асашыэйтэд Прэс».*

**Вось ужо ніяк не думаў іспанскі бізнесмен Эдуардо Сіера, што, уваходзячы ў адну з цэркваў Стакгольма, ён выйдзе адтуль мільянерам.**

Але менавіта так і адбылося, калі ён, убачыўшы ў царкве адзінокую труну, якую даставілі для адпявання нябожчыка, падышоў да яе і стаў на калені. Чвэрць гадзіны набожны іспанец маліўся за нябожчыка, а затым распісаўся ў кнізе спачуванняў. Яго подпіс аказаўся першым, і, як выявілася, адзіным у гэтай кнізе.

Убачыўшы Сіеру, які маліўся, царкоўныя служыцелі папрасілі ў яго дамашні адрас і нумар тэлефона. А праз некалькі месяцаў у кватэры іспанца пачуўся тэлефонны званок са Стакгольма. Зусім ашаломленаму Сіеры паведамілі, што ён атрымаў у спадчыну каласальную грашовую суму. Памёршым аказаўся 73-гадовы гандляр нерухомасцю, у якога не было сям'і. У сваім завяшчанні ён напісаў: «Той, хто памоліцца за маю душу, атрымае ўсё, што я маю».

*«Суар»*

**СЁННЯ**

**МЕСЯЦ**
**Поўня**
**25 лістапада.**

**ІМЯНІНЫ**
**Пр. Гурыя, Самона і Авіва, Паісія, Дзімітрыя К. Стэфана, Здзіслава**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, часам ападкі, месцамі ападкі моцныя, наліпанне мокрага снегу, у асобных раёнах туман. Тэмпература паветра ў Брэсце, Гродне — 0—2, Мінску — 2—4, Віцебску — 3—5, Магілёве, Гомелі — 5—7 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак часам мокры снег, месцамі галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература ўначы — мінус 4—плюс 1, удзень — мінус 2—плюс 3.

ВЕРСІІ

## САКРУШАЛЬНАЯ ПЕРАМОГА І ЯЕ МАГЧЫМЫЯ ВЫНІКІ

### Палітычная барацьба ў Беларусі пераходзіць у якасна іншы стан

**Пасля 24 лістапада ўладзе Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі на бліжэйшыя пяць гадоў, бадай, нішто не пагражае. Палітычная апазіцыя ўнутры краіны ўвогуле знікне з далягляду. Ніякім выказваннем недаверу, імпічментам апратэставаннем прэзідэнцкіх указаў ні Нацыянальны сход (так будзе называцца новы парламент), ні новы Канстытуцыйны суд пагражаць Прэзідэнту больш не змогуць.**

Частка дэпутатаў старога Вярхоўнага Савета ніколі не прыйдзе да згоды з Аляксандрам Лукашэнкам наконт таго, хто з дэпутатаў ВС дастойны ўвайсці ў Палату прадстаўнікоў, а хто застанецца за бортам новага парламента. Але гэтае супраціўленне можа стаць толькі апошняй дэманстрацыяй пратэсту, бразганнем дзвярыма. Калі дэпутаты Вярхоўнага Савета раптам заўпарцяцца і не захочуць пагадзіцца з прапановамі Аляксандра Лукашэнкі, ён проста распусціць Вярхоўны Савет (артыкул 143 новай Канстытуцыі) і прызначыць выбары Нацыянальнага сходу. Зрэшты, сёння ўжо зразумела, што парламенцкая большасць — на баку пераможцы. Пазбавіўшыся ад дэмакратаў і непрымірымай часткі камуністаў, Прэзідэнт атрымае ва ўсіх адносінах прыемны і бесканфліктны Нацыянальны сход.

Канстытуцыйны суд, паводле новага Асноўнага закона, ранейшай істотнай ролі ў палітычнай барацьбе іграць не здолее.

Палітычныя партыі і рухі Беларусі ў барацьбе за Канстытуцыю 1994 года выразна прадэманстравалі свае больш чым сціплыя магчымасці ўплываць на палітычныя працэсы ў краіне. Паколькі роля парламента ў дзяржаве зніжаецца, а выбарчая сістэма застаецца нязменнай (галасаванне па партыйных спісах па-ранейшаму не прадугледжана) — палітычныя партыі і надалей будуць працягваць вартае жалю існаванне.

Так што палітычных праціўнікаў, якім варта было б надаваць сур'ёзнае значэнне, у Аляксандра Лукашэнкі не засталося. Можна адкласці ўбок баявы меч і забыць пра палітычныя бойкі ажно да 2002 года — часу, на які, магчыма, будуць прызначаны чарговыя прэзідэнцкія выбары.

Прэзідэнт умацаваў унутры краіны свае пазіцыі настолькі, што яго наўрад ці могуць непакоіць нават непрыемныя вынікі далейшага паглыблення эканамічнага крызісу, паколькі поўная і нічым не абмежаваная свабода дзеянняў у эканоміцы яму гарантавана.

Невядома, ці будзе Прэзідэнт і далей шукаць свой, арыгінальны выхад з эканамічнага тупіка. Вядома, ідэі сацыяльнай роўнасці, бясплатных даброт, усеагульнай занятасці — вельмі прывабныя, але іх рэалізацыя магчыма толькі пры ўмове, што нехта іх будзе фінансаваць. Іншых крыніц фінансавання, акрамя эфектыўнай эканомікі, у Беларусі не прадбачыцца. А падняць з калень прамысловыя гіганты нашай краіне без замежных інвестыцый не ўдасца.

Захад, хутчэй за ўсё, не прызнае вынікаў беларускага рэферэндуму. І хоць шляхам, якім пайшоў Аляксандр Лукашэнка, ішлі многія постсавецкія лідэры ў Сярэдняй Азіі, — тое, што даравалі азіятам, беларусам не даруюць. Еўрапейскія краіны не любяць, калі ігнаруюцца стандарты, прынятыя ў іх супольнасці.

Беларускаму Прэзідэнту ў выпадку, калі ён усё ж не пажадае ствараць «жалезную заслону» на заходніх граніцах, давядзецца ў бліжэйшыя гады прыкласці нямала намаганняў дзеля таго, каб змякчаць, змікшыраваць непрыемныя ўражанні, якія засталіся ў Захаду ад беларускага рэферэндуму, каб паспрабаваць разбурыць імідж лідэра з дыктатарскімі замашкамі і непрадказальнымі паводзінамі.

Калі будзе выбрана менавіта такая тактыка, то можа здарыцца, што ў бліжэйшы час у Беларусі насуперак многім апасенням не толькі не будуць «завінчаны гайкі», а, наадварот, — адбудзецца пэўная лібералізацыя грамадскага жыцця. Перамогшы ўсіх ворагаў, Аляксандр Лукашэнка можа сабе дазволіць пабыць паблажлівым да пераможаных.

Пакуль незразумела, як складзецца будучыня Беларусі як незалежнай дзяржавы. Цяжка ўявіць, што Аляксандр Лукашэнка, з такой цяжкасцю заваяваўшы мала чым абмежаваную ўладу, захоча ёю з кімсьці падзяліцца. Гэта магчыма хіба што пры сітуацыі, калі эканамічнае становішча Беларусі акажацца крытычным, або пры цвёрдай гарантыі таго, што ў аб'яднанай дзяржаве беларускі Прэзідэнт зойме галоўную пасаду. Калі абставіны складуцца менавіта такім чынам, то вельмі можа здарыцца, што на чарговым рэферэндуме грамадзяне Беларусі будуць адказваць на пытанне пра аб'яднанне з Расіяй. (І адкажуць, несумненна, станоўча.) Але такая рэвалюцыйная сітуацыя пакуль што яўна не склалася.

...Беларусь, здаецца, нарэшце перажыла цяжкую, трывожную, гарачую восень 1996-га. Беларусы два апошнія тыдні неслі на выбарчыя ўчасткі свае спадзяванні, мары і ілюзіі. Цяпер пачалося новае жыццё. І асабістыя праблемы кожнага, калі гэта новая рэчаіснасць не супадае з яго ўчарашнімі спадзяваннямі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

МЕРКАВАННЕ

## Джонатан СЦІЛ: «АСВЯТЛЕННЕ ВЯЛОСЯ АДНАБАКОВА»

**«Беларускія выбаршчыкі былі пазбаўлены шанцу прадэманстраваць падчас рэферэндуму дэмакратычны выбар, паколькі асвятленне кампаніі вялося аднабакова». Пра гэта 25 лістапада на прэс-канферэнцыі заявіў рэдактар брытанскай газеты «Гардыян» Джонатан Сціл, які ўзначальваў групу міжнародных назіральнікаў ад Еўрапейскага інстытута па СМІ.**

Свае словы сп. Сціл пацвердзіў вынікамі маніторынгу, які назіральнікі ажыццяўлялі на працягу двух тыдняў напярэдадні рэферэндуму. Пры гэтым ён заўважыў, што эксперты не сачылі за ходам галасавання і падліку бюлетэняў, а сканцэнтравалі сваю ўвагу толькі на дзейнасці тэлебачання, радыё і газет. Асабліва іх цікавілі электронныя сродкі масавай інфармацыі, якія маюць найбольшы ўплыў на грамадзян. Такім чынам, паводле інфармацыі назіральнікаў, з 9 па 23 лістапада дзяржаўнае тэлебачанне Беларусі прысвяціла рэферэндуму 2178 хвілін эфірнага часу (гэта больш за паўтара сутак), з якіх 90 працэнтаў былі на карысць Прэзідэнта А. Лукашэнкі, а астатнія мелі нейтральны характар. Вярхоўны Савет на свой рахунак не можа запісаць ніводнай хвіліны. Пра яго казалася толькі тады, калі выбаршчыкаў заклікалі галасаваць супраць прапаноў парламента. Яшчэ больш складаная сітуацыя на Беларускім радыё, дзе нагаварылі 2249 хвілін пра плебісцыт. 92 працэнты размоў былі на карысць прэзідэнцкіх прапаноў, а Вярхоўны Савет зноў не атрымаў ніводнай хвіліны.

Што датычыцца газет, то тут Еўрапейскі інстытут па СМІ таксама прыгадаў мала станоўчых фактаў. Дзяржаўныя друкаваныя органы ў абсалютнай большасці падтрымлівалі і адлюстроўвалі прэзідэнцкі бок. Альтэрнатыўную пазіцыю прадстаўлялі нешматлікія недзяржаўныя газеты, якія выдаюцца невялікім накладам, распаўсюджваюцца пераважна ў вялікіх гарадах, не аказваючы, такім чынам, моцнага ўздзеяння на выбаршчыкаў.

Прыведзеныя факты, як падкрэсліў сп. Сціл, не толькі супярэчаць уяўленню аб дэмакратычнасці волевыяўлення грамадзян, але нават не адпавядаюць указу Прэзідэнта аб дзейнасці Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, дзе прадугледжана, што радыё і тэлебачанне павінны поўна і аб'ектыўна прадстаўляць усе пункты гледжання. Дарэчы, у Адміністрацыі Прэзідэнта на заўвагі назіральнікаў адказалі, што пазіцыя парламента была дастаткова прадстаўлена расійскімі СМІ. «Але гэта не пазбаўляе адказнасці, паколькі Беларускае тэлебачанне існуе на сродкі беларускіх грамадзян», — пярэчыць Джонатан Сціл. Тым не менш, быў праведзены і маніторынг каналаў ГРТ і РТР, у выніку чаго высветлілася, што з усіх 309 хвілін перадач адносна беларускага рэферэндуму 50 працэнтаў адлюстроўвалі пазіцыю парламента, а астатнія мелі нейтральны характар.

Міжнародныя назіральнікі ў выніку прыйшлі да высновы, што працэдура галасавання па выбарчых участках і ходу падліку бюлетэняў у дзень выбараў не з'яўляюцца ў поўнай меры дастатковымі, каб прызнаць рэферэндум свабодным і справядлівым. Каб сапраўды прызнаць галасаванне дэмакратычным, неабходна ўлічыць акалічнасці ўсёй передвыбарнай кампаніі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## Сяргей ПОСАХАЎ: «ЛЁС ДЗЯРЖАВЫ ВЫРАШАЕЦЦА НЕ НА ВУЛІЦЫ, НЕ НА МІТЫНГАХ І ШЭСЦЯХ...»



*Імя памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сяргея ПОСАХАВА добра знаёма, вядома ж, і чытачам «Звязды». Мы неаднойчы друкавалі інтэрв'ю з ім, падрыхтаваныя, у прыватнасці, агенцтвам «Інтэрфакс». Сёння з Сяргеем Посахавым гутарыць наш карэспандэнт.*

**— Сяргей Аляксеевіч, першае, з чаго хацелася б пачаць размову, — дык не столькі з ацэнкі апошніх палітычных падзей, вынікаў рэферэндуму, колькі пацікавіцца вашым меркаваннем, вашым уласным прагнозам на развіццё грамадска-палітычнай сітуацыі ў бліжэйшыя месяц-два?**

— Апошнім часам, прызнаюся, я стараюся абыходзіць гэткія пытанні. Пасада і мая, і іншых памочнікаў Прэзідэнта скіравана на іншае, — растлумачваць дзяржаўныя задачы людзям, дапамагаць арганізоўвацца. І такога асаблівага красамоўства, занадта глыбакадумных разважанняў я не хацеў бы дапускаць. Але ж і не магу не адказаць на пытанне, якое, паўтаруся, далёка для мяне не першачарговае. Любыя прагнозы больш-менш ламаюцца, збываюцца альбо не збываюцца. Гэта ж Леў Талстой сказаў: калі адбываецца якая-небудзь гістарычная падзея, то столькі ўсяго адбываецца рознага, таму і знаходзіцца чалавек, які можа сказаць, што вось, маўляў, я ж гаварыў, я ж папярэджваў. І калі ў мяне пытаюцца ў апошнія гады, а ці будзе ліцца кроў, то я заўсёды катэгарычна гэта адмаўляў. Больш таго, сёння я павінен сказаць: гэта мае інстынктыўнае адчуванне і вера, калі хочаце, і прагноз палітыка і вучонага — рэферэндум, выбар беларускага народа далі гарантыю стабільнасці. І я ўпэўнены, што ўсё будзе ў рамках стабільнасці. Тыя людзі, тыя працэсы апазіцыйныя, дзе ў паводзінах, у аснове ляжалі толькі асабістыя амбіцыі, дзякуючы волі беларускага народа, выказанай дакладна і ясна, адыходзяць на другі план. І задача ўсіх сёння заключаецца ў тым, каб сфарміраваць органы прадстаўнічай улады, улічваючы новую Канстытуцыю, з упэўненасцю, што парламент, народны сход будзе займацца сваёй справай. А ёю і з'яўляецца не што іншае, як заканатворчасць, а зусім і далёка не адны пытанні палітычнай улады. Ужо ж, прызнацца, стаміліся гаварыць пра тое, што сёння як паветра патрэбны цэлы шэраг законаў, якія б гарантавалі людзям працу, жыллё, ахову здароўя, бяспеку, адукацыю.

Хопіць ужо гаварыць сёння, якая падатковая сістэма лепшая. Хопіць гаварыць агулам пра медыцынскія праблемы, трэба вырашаць пытанне з забеспячэннем лекамі, трэба дапамагаць канкрэтным людзям. Хопіць весці дыскусіі вакол рэфарміравання адукацыі, пошуку новых формаў, навука павінна вызначыць, колькі ВНУ патрэбна краіне, па якіх спецыяльнасцях яны павінны рыхтаваць спецыялістаў, неабходных народнагаспадарчаму комплексу. Законы павінны адказваць на канкрэтныя запатрабаванні часу. Гэта ў аднолькавай ступені датычыцца і аховы правапарадку, і імкнення даць штуршок развіццю гігантаў нашай прамысловасці. Па сутнасці ж ад МАЗа, МТЗ, «Інтэграла», нафтахімічнага залежыць развіццё эканомікі ў цэлым. Чаму ж гэтымі канкрэтнымі справамі не займацца заканатворцам?

**— Але ж і падаткі, і іншыя, скажам так, агульныя праблемы вырашаюцца з разлікам, каб даць палёгку на практыцы, палёгку канкрэтным прадпрыемствам...**

— У мяне такое ўражанне, што палітыкі многія той канкрэтыкі, таго практычнага жыцця якраз і не бачаць. Мне цяжка ўявіць нашых вучоных парламентарыяў у рабочым асяродку, у тым ці іншым цэху. Гаворачы пра многія і многія заганы, большасць з якіх цяжка адмаўляць, безумоўна, нашы парламентарыі не бачаць многіх станоўчых сімптомаў. Чаму іх не ўзрушае, не кранае тое, што наш «Гарызонт» зараз імгненна раскупляюць, што за вырабамі фабрыкі «Алесі» выстройваюцца чэргі? Думаю, што па той простай прычыне, што на ўсё яны пазіраюць збоку. А з апошніх падзей успомніце адкрыццё тэлепорта. Гэта ж сапраўды высокі сусветны ўзровень. А развіццё нашай чыгункі, развіццё грамадзянскай авіяцыі... Рух, як бачым, адбываецца. І найлепшы шлях для палітыка — удзельнічаць у ім канкрэтнымі справамі.

Канкрэтныя справы, звязаныя з народнымі запатрабаваннямі, і сцвярджэнне грамадскай стабільнасці — вось шлях для палітыкаў усіх колераў і арыентацый. Зразумеюць гэта таварышы, паны, спадары — застануцца з народам. Не — тады выбачайце... Хто зараз думае, што ён разумнейшы за шэсць мільёнаў чалавек, той дужа памыляецца.

**— І ўсё ж пра канкрэтныя перспектывы палітычнага развіцця...**

— Першае — думаю, што парламент сфарміруецца, пачне працаваць, будзе рыхтаваць законную базу для змен практычных і рашучых. Другое — эканоміка. Ёю павінны як след займацца ўсе. Урад па новай Канстытуцыі атрымаў велізарнейшыя паўнамоцтвы. Важна правільна расставіць кадры, якія павінны сёння прывесці нашу Беларусь да дабрабыту. І трэцяе — нам трэба заняцца сваёй духоўнасцю. Для гэтага ёсць усе падставы, тысячы ініцыятыў, прапаноў. Трэба ўключыць у гэты працэс тых людзей, якія могуць не палітыканстваваць, а могуць напісаць цудоўныя кнігі, здзейсніць навуковыя адкрыцці, стварыць высокамастацкія карціны... Мову і культуру, беларускую мову і беларускую культуру трэба сцвярджаць, даводзіць да самых шырокіх мас штодзённай чарнавой працай.

**— Вы ўжо закранулі пытанне, звязанае з кадравымі перастаноўкамі ці, хутчэй, — з новымі, болей высокімі запатрабаваннямі да кадраў. Што ўсё ж такі стане галоўным аргументам для змен у саставе Кабінета Міністраў, у іншых кадравых зменах?**

— Увесь час у паветры лунаюць два сцвярджэнні. Першае — вельмі шмат дастойных людзей, прызначаюць, маўляў, чамусьці іншых. Асабліва часта гэта сцвярджаюць лідэры партыі камуністаў. Маўляў, яны гатовы паставіць дастойных людзей ледзь не на ўвесь штатны расклад. Але, як паказала практыка, іх лідэры, іх кадры здольныя толькі да разбурэння. Таму, крый Божа, такой дапамогі не трэба. І другое сцвярджэнне — кадраў няма. Іх, як бачыце, перацягнула Масква, якая заўсёды забірала ўсё самае лепшае. Я думаю, што ісціна, як заўсёды, знаходзіцца недзе пасярэдзіне. Вядома ж, высокакваліфікаваных кадраў, спецыялістаў не так ужо шмат. Але патэнцыял, людзі ёсць. Трэба рыхтаваць, трэба вучыць. І моладзь — таксама.

Часам нашым кадрам не хапае шырокамаштабнага бачання. Добра, што пайшоў у адстаўку міністр працы. Міністр працы, па майму перакананню, — гэта не зусім чыноўнік. Праца — гэта ж не толькі першая неабходнасць чалавека, а ўмовы яго жыцця. Ёсць, між іншым, некалькі маладых людзей, якія займаюцца арганізацыяй працы на грамадскіх пачатках. Цяжка сабе ўявіць, але яны арганізоўваюць тысячы працоўных месцаў. Вось будучыя дзейсныя, сапраўдныя палітыкі, міністры.

Так што ў падыходзе да кадраў трэба не забывацца на наступныя моманты: а — рыхтаваць кадры, б — берагчы іх, в — яднаць. Рэферэндум паказаў, што ў кіраўнікоў самых розных рангаў з'явілася ўпэўненасць. Да вырашэння агульных задач мы ішлі разам, адзінай камандай. Раней жа было такое: хто — за Кебіча, хто — за Шушкевіча, хто яшчэ за некага іншага... Сёння ўсё іначай. Працавалі адной камандай, і гэтая каманда атрымала падтрымку. Хто не захацеў падтрымкі — яны сышлі самі. Вось і з'яўляецца сёння ўпэўненасць, вельмі, між іншым, важная, неабходная якасць, рыса.

**— Сяргей Аляксеевіч, на ваш погляд, ці не адбудзецца радыкалізацыя грамадскіх настрояў, ці не прыйдзе на змену парламенцкай апазіцыі ўвогуле больш магутная грамадска-палітычная апазіцыя?**

— Давайце ўсё ж закцэнтуем увагу — на чым было замешана процістаянне? На амбіцыях. Даходзіла да смешнага. На «круглым стале» Багданкевіч і Калякін абвінавачвалі ўладу, Прэзідэнта за зусім процілеглыя рэчы. Адзін гаварыў, што Прэзідэнт прапаноўвае пракамуністычны шлях, другі вінаваціў Аляксандра Рыгоравіча ў прабуржуазнай арыентацыі. Дзе ж праўда? Таму, устараніўшы з арэны грамадскага жыцця дамінуючую ролю амбіцый, мы не думаем, што процістаянне працягнецца. Якая грамадска-палітычная апазіцыя, калі семдзесят працэнтаў дарослага насельніцтва падтрымала Прэзідэнта? Іншая справа, як будзе рэалізаваны гэты мандат даверу. Бо галасаванне фактычна адбывалася ў знак даверу.

Але хацеў бы зазначыць і наступнае. Цяжка сказаць, як будзе развівацца грамадска-палітычная сітуацыя, бо многія ж рычагі ўздзеяння знаходзяцца за межамі рэспублікі. Але што датычыць развіцця падзей унутры краіны, без знешняга ўплыву, то прыярытэты вызначаюць сумленная і адкрытая палітыка Прэзідэнта, яго дзелавітасць, з якой Аляксандр Рыгоравіч ставіцца да кожнай справы. У яго няма дробязі. А любая дробязь ператвараецца ў значную, важную, уплывовую на той альбо іншы працэс акалічнасць.

Пяцьдзесят—шэсцьдзесят чалавек на плошчы — хіба гэта грамадская апазіцыя? Тут я заўсёды ўспамінаю 1991 год, калі на плошчу выйшла непалітызаваная маса людзей. Гэта іншая справа. Сёння ж непалітызаваная маса выходзіць якраз у падтрымку Прэзідэнта.

**— Ці дапускаеце вы думку, што Прэзідэнт у наступных сваіх кроках будзе апірацца ў нейкай ступені на тую частку электарату, якая падтрымала ў ходзе рэферэндуму парламент?**

— Апора на грамадства рэалізуецца ў момант выбараў. Цяпер жа апора заключаецца ў тым, каб дзейнічаць у прававым і ідэйным калідоры, на які даў права народ большасцю сваіх галасоў.

**— Але ж і тыя людзі, якія прагаласавалі па-іншаму альбо якія не прыйшлі на рэферэндум, таксама маюць свае інтарэсы, якія, на мой погляд, павінны быць адлюстраваны ў дзяржаўнай палітыцы. Гэтыя людзі таксама з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь...**

— Прэзідэнт ужо сказаў прыблізна аб гэтым. Ён адрознівае лідэраў, якія выказваюць уласныя амбіцыі, і тых людзей, якія прытрымліваюцца пэўных, не ўласцівых усяму грамадству, поглядаў, няхай сабе і радыкальных. І Прэзідэнт будзе дзейнічаць і ў інтарэсах гэтых людзей. Я мяркую, што радыкальная частка нашага грамадства павінна быць задаволена тым, што ідзе будаўніцтва моцнай самастойнай, суверэннай дзяржавы. Ствараецца нацыянальная самадастатковая эканоміка. Усё ж мне падаецца, што датычыцца сумленных радыкалаў, то яны, мяркую, павінны быць задаволены. Не ўсё так і зусім не так дрэнна, як у гэтым часам стараюцца пераканаць некаторыя суперрадыкальныя палітыкі. Што датычыцца нездаволеных (напрыклад, артадаксальных камуністаў, якія хацелі б дамагчыся ўсталявання цалкам планавай эканомікі), то тут ужо мы не пойдзем след у след за імі. Ды і нацыянальныя прыярытэты метадам дубінкі не дазволім нікому сцвярджаць. Так, між іншым, дзеецца ў любой краіне.

Што да ўпартых радыкалістаў, то і ў іх ёсць свой шлях — чакаць новых выбараў, працаваць на іх. Вось толькі ці падтрымае народ і наступным разам?.. Лёс дзяржавы — у гэтым пераконваюць падзеі апошняга часу — вырашаецца не на вуліцы, не на мітынгах, шэсцях, а на рэферэндуме, у час галасавання.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

КРЫК ДУШЫ

## НЕ ПІШЫЦЕ СКАРГАЎ...

Я жонка ваеннаслужачага. Мы праслужылі ў арміі больш за 20 гадоў. Звольніўшыся, вярнуліся на Радзіму з Прыморскага края. У Салігорску жывём на кватэры і працуем. Муж — урачом у бальніцы, я — у школе настаўніцай.

Мэр нашага горада адмаўляе нам у атрыманні нават пакоя ў інтэрнаце. В. Юрчыку не спадабалася, што мною было напісана пісьмо асабіста Прэзідэнту. Мэр і з'явіўся рэжысёрам маральнага глумлення нада мной. Запрасіў Т. Данілевіч, загадчыцу аддзела народнай адукацыі, якая зневажала мяне як хацела, называла непісьменнай, некультурнай і прыгразіла звольніць з работы.

Пасля пісьма да Прэзідэнта нашу чаргу на атрыманне кватэры перасунулі з 39-га на 409-е месца. Паставілі ў агульную чаргу.

**Галіна ПІЛЕВІЧ,**
г. Салігорск.

***АД РЭДАКЦЫІ. У аддзеле па ўліку і размеркаванню жылля Салігорскага гарвыканкома нам растлумачылі: сям'я стаіць на льготнай чарзе пад № 409 і па-ранейшаму застаецца ў спісе дэмабілізаваных воінаў пад № 39.***

# 50 вядучых палітыкаў Беларусі,

## У Мінску і ў Кіеве Аляксандр Лукашэнка і Леанід Кучма ўзмацнілі свае пазіцыі,

*Аляксандр КІНСБУРГСКІ — «Vox populi»,*

### 50 вядучых палітыкаў Беларусі ў кастрычніку

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Кастрыч. | Верас. | |
| 1. | Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 6,48 | 6,49 | Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь |
| 2. | Шарэцкі Сямён Георгіевіч | 6,03 | 6,65 | Старшыня Вярхоўнага Савета, фракцыя аграрыяў |
| 3. | Ціхіня Валерый Гур'евіч | 5,77 | 4,96 | Старшыня Канстытуцыйнага суда |
| 4. | Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч | 5,09 | 4,88 | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 5. | Ганчар Віктар Іосіфавіч | 4,62 | 5,14 | Старшыня Цэнтрвыбаркома, дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 6. | Новікаў Васіль Мікалаевіч | 4,55 | 5,28 | Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя камуністаў |
| 7. | Багданкевіч Станіслаў Антонавіч | 4,16 | 4,20 | Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» ў Вярхоўным Савеце. |
| 8. | Калякін Сяргей Іванавіч | 4,14 | 4,59 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі камуністаў |
| 9. | Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч | 4,05 | 4,33 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 10. | Шэйман Віктар Уладзіміравіч | 4,01 | 3,88 | Дзяржсакратар Савета бяспекі |
| 11. | Захаранка Юрый Мікалаевіч | 3,92 | 3,25 | Кіраўнік камітэта Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры. Былы міністр унутраных спраў |
| 12. | Замяталін Уладзімір Пятровіч | 3,87 | 4,08 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 13. | Чыгір Міхаіл Мікалаевіч | 3,60 | 3,63 | Прэм'ер-міністр |
| 14-15. | Ганчарык Уладзімір Іванавіч | 3,54 | 2,96 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода», старшыня Савета Федэрацыі прафсаюзаў |
| 14-15. | Ціцянкоў Іван Іванавіч | 3,54 | 3,51 | Кіраўнік спраў Прэзідэнта |
| 16. | Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч | 3,52 | 3,24 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 17. | Кісель Рыгор Леанідавіч | 3,51 | 3,49 | Старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі |
| 18. | Бухвостаў Аляксандр Іванавіч | 3,37 | 3,82 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, лідэр Беларускай партыі працы |
| 19. | Краўчанка Пётр Кузьміч | 3,26 | 2,22 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня камісіі па міжнародных справах |
| 20-21. | Дабравольскі Аляксандр Альгертавіч | 3,04 | 3,00 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі |
| 20-21. | Віннікава Тамара Дзмітрыеўна | 3,04 | 2,92 | Старшыня Нацыянальнага банка |
| 22. | Абрамовіч Аляксандр Міхайлавіч | 3,01 | 3,45 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 23. | Антановіч Іван Іванавіч | 2,99 | 2,82 | Намеснік міністра замежных спраў |
| 24. | Малумаў Юрый Георгіевіч | 2,96 | 2,76 | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода» |
| 25-26. | Грыб Мечаслаў Іванавіч | 2,92 | 2,65 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы» |
| 25-26. | Таразевіч Георгій Станіслававіч | 2,92 | 2,84 | Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол, член савета Партыі народнай згоды. |
| 27. | Капітан Васіль Сцяпанавіч | 2,89 | 2,63 | Генеральны пракурор |
| 28. | Ярмошын Уладзімір Васільевіч | 2,83 | 2,73 | Мэр Мінска |
| 29. | Філарэт | 2,77 | 2,08 | Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі |
| 30. | Агалец Валянцін Сцяпанавіч | 2,75 | 2,43 | Міністр унутраных спраў |
| 31. | Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч | 2,71 | 2,59 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 32. | Майсеня Анатоль Іосіфавіч | 2,68 | 2,33 | Кіраўнік Цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» |
| 33. | Посахаў Сяргей Аляксеевіч | 2,54 | 2,96 | Памочнік Прэзідэнта |
| 34. | Хадыка Юрый Віктаравіч | 2,46 | 2,96 | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту |
| 35. | Баршчэўскі Лявон Пятровіч | 2,40 | 3,00 | Намеснік старшыні Беларускага народнага фронту |
| 36-37. | Гіруць Мечыслаў Іванавіч | 2,38 | 2,55 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі аграрыяў |
| 36-37. | Сянько Уладзімір Лявонавіч | 2,38 | 2,35 | Міністр замежных спраў |
| 38. | Чыкін Віктар Валянцінавіч | 2,34 | 2,00 | Сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларусі |
| 39. | Шлындзікаў Васіль Міхайлавіч | 2,31 | 1,98 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне», старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах |
| 40. | Латыпаў Урал Рамдракавіч | 2,29 | 2,41 | Кіраўнік сакратарыята — памочнік Прэзідэнта |
| 41. | Каратчэня Іван Міхайлавіч | 2,25 | 1,59 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода». Выканаўчы сакратар СНД. |
| 42. | Абрамава Вольга Міхайлаўна | 2,23 | 2,25 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы» |
| 43. | Гразнова Людміла Мікалаеўна | 2,21 | 1,82 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне» |
| 44. | Канаплёў Уладзімір Мікалаевіч | 2,16 | 2,33 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі «Згода» |
| 45-47. | Падгайны Міхаіл Васільевіч | 2,09 | 1,57 | Начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 45-47. | Статкевіч Мікалай Віктаравіч | 2,09 | 2,49 | Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада». |
| 45-47. | Нісцюк Уладзімір Пятровіч | 2,09 | 1,86 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы» |
| 48. | Якубовіч Павел Ізотавіч | 2,07 | 1,67 | Галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия» |
| 49. | Дзік Павел Уладзіміравіч | 2,03 | 2,18 | Міністр фінансаў |
| 50. | Слука Алег Георгіевіч | 2,01 | 2,22 | Памочнік Прэзідэнта. |

«НЕЗАВИСИМАЯ ГАЗЕТА», СЛУЖБА «VOX POPULI», ААТ «СКАРЫНА», 1996 Г.

### 50 вядучых палітыкаў Расіі ў кастрычніку

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Кастрыч. | Верас. | |
| 1. | Чарнамырдзін Віктар Сцяпанавіч | 7,93 | 7,94 | Прэм'ер-міністр |
| 2. | Чубайс Анатоль Барысавіч | 7,83 | 7,21 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 3. | Ельцын Барыс Мікалаевіч | 7,67 | 7,29 | Прэзідэнт Расіі |
| 4. | Лебедзь Аляксандр Іванавіч | 6,93 | 7,79 | Былы сакратар Савета бяспекі |
| 5. | Лужкоў Юрый Міхайлавіч | 6,62 | 7,18 | Мэр Масквы, член Савета Федэрацыі |
| 6. | Кулікоў Анатоль Сяргеевіч | 6,24 | 4,50 | Міністр унутраных спраў |
| 7. | Зюганаў Генадзь Андрэевіч | 5,51 | 5,35 | Старшыня КПРФ, лідэр фракцыі камуністаў у Дзяржаўнай Думе |
| 8. | Масхадаў Аслан Аліевіч | 5,49 | 5,81 | Начальнік штаба ўзброеных фарміраванняў апазіцыі Чачэнскай Рэспублікі |
| 9. | Селязнёў Генадзь Мікалаевіч | 5,33 | 4,60 | Старшыня Дзяржаўнай Думы, фракцыя камуністаў |
| 10-11. | Беразоўскі Барыс Абрамавіч | 5,20 | 4,20 | Намеснік сакратара Савета бяспекі |
| 10-11. | Прымакоў Яўген Максімавіч | 5,20 | 5,50 | Міністр замежных спраў |
| 12. | Строеў Ягор Сямёнавіч | 5,18 | 5,02 | Старшыня Савета Федэрацыі, губернатар Арлоўскай вобласці |
| 13. | Ліўшыц Аляксандр Якаўлевіч | 5,16 | 5,35 | Міністр фінансаў, віцэ-прэм'ер |
| 14-15. | Дзьячэнка Таццяна Барысаўна | 5,06 | 4,27 | Былы член перадвыбарнага штаба. Дачка Б. Ельцына |
| 14-15. | Радзівонаў Ігар Мікалаевіч | 5,06 | 4,58 | Міністр абароны |
| 16. | Дубінін Сяргей Канстанцінавіч | 5,00 | 4,63 | Старшыня Цэнтральнага банка |
| 17. | Патанін Уладзімір Алегавіч | 4,87 | 4,83 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 18. | Яндарбіеў Зелімхан Абдумуслімавіч | 4,84 | 5,13 | Прэзідэнт Чачэнскай Рэспублікі |
| 19. | Гусінскі Уладзімір Аляксандравіч | 4,60 | 3,73 | Старшыня Савета дырэктараў групы «Мост» |
| 20. | Бальшакоў Аляксей Аляксеевіч | 4,45 | 4,22 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 21. | Батурын Юрый Міхайлавіч | 4,36 | 3,08 | Памочнік Прэзідэнта, сакратар Савета абароны |
| 22. | Скуратаў Юрый Ільіч | 4,28 | 3,98 | Генеральны пракурор |
| 23. | Каржакоў Аляксандр Васільевіч | 4,25 | 2,98 | Былы начальнік Службы бяспекі Прэзідэнта |
| 24. | Вяхіраў Рэм Іванавіч | 4,12 | 3,90 | Старшыня праўлення РАТ «Газпром» |
| 25. | Ясін Яўген Рыгоравіч | 4,04 | 3,94 | Міністр эканомікі |
| 26. | Алексій ІІ | 3,96 | 4,00 | Патрыярх Маскоўскі і Ўсяе Русі |
| 27. | Наздраценка Яўген Іванавіч. | 3,93 | 4,37 | Губернатар Прыморскага края, член Савета Федэрацыі |
| 28-29. | Ілюшын Віктар Васільевіч | 3,87 | 4,35 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 28-29. | Малашэнка Ігар Яўгенавіч | 3,87 | 3,79 | Кіраўнік тэлекампаніі НТБ |
| 30. | Бабічаў Уладзімір Сцяпанавіч | 3,81 | 4,02 | Кіраўнік апарату ўрада Расіі, віцэ-прэм'ер |
| 31. | Шаймieў Мінцімер Шарыпавіч | 3,77 | 4,06 | Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан, член Савета Федэрацыі |
| 32-34. | Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч | 3,65 | 3,87 | Старшыня ЛДПР, лідэр фракцыі ЛДПР у Дзяржаўнай Думе |
| 32-34. | Мікалаеў Андрэй Іванавіч | 3,65 | 3,77 | Дырэктар Федэральнай пагранічнай службы |
| 32-34. | Яўлінскі Рыгор Аляксеевіч | 3,65 | 2,69 | Лідэр фракцыі «ЯБЛоко» ў Дзяржаўнай Думе |
| 35. | Кісялёў Яўген Аляксеевіч | 3,59 | 3,67 | Вядучы тэлепраграмы «Вынікі», віцэ-прэзідэнт тэлекампаніі НТБ |
| 36. | Нямцоў Барыс Яфімавіч | 3,54 | 3,75 | Губернатар Ніжагародскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 37. | Бяляеў Сяргей Георгіевіч | 3,49 | 3,00 | Лідэр фракцыі «Наш дом — Расія» ў Дзяржаўнай Думе |
| 38. | Смаленскі Аляксандр Паўлавіч | 3,44 | 3,34 | Прэзідэнт АКБ «Сталічны Банк зберажэнняў» |
| 39-40. | Казакоў Аляксандр Іванавіч | 3,43 | 3,27 | Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 39-40. | Шохін Аляксандр Мікалаевіч | 3,43 | 2,88 | Намеснік Старшыні Дзяржаўнай Думы |
| 41. | Ілюхін Віктар Іванавіч | 3,40 | 2,65 | Старшыня Камітэта па бяспецы Дзяржаўнай Думы |
| 42. | Сагалаеў Эдуард Міхайлавіч | 3,35 | 3,06 | Старшыня Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі |
| 43-45. | Аушаў Руслан Султанавіч | 3,33 | 3,35 | Прэзідэнт Рэспублікі Інгушэція |
| 43-45. | Задорнаў Міхаіл Міхайлавіч | 3,33 | 2,84 | Старшыня Камітэта па бюджэту Дзяржаўнай Думы |
| 43-45. | Лукін Уладзімір Пятровіч | 3,33 | 3,80 | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, фракцыя «ЯБЛоко», старшыня Камітэта па міжнародных справах |
| 46. | Хадаркоўскі Міхаіл Барысавіч | 3,32 | 3,19 | Кіраўнік холдынгу «Распром» |
| 47. | Шойгу Сяргей Кужугетавіч | 3,28 | 3,33 | Міністр па надзвычайных сітуацыях |
| 48-50. | Какошын Андрэй Афанасьевіч | 3,22 | 3,06 | Першы намеснік міністра абароны |
| 48-50. | Савасцьянаў Яўген Вадзімавіч | 3,22 | 2,13 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 48-50. | Ястржэмбскі Сяргей Уладзіміравіч | 3,22 | 3,27 | Прэс-сакратар Прэзідэнта. |

«НЕЗАВИСИМАЯ ГАЗЕТА», СЛУЖБА «VOX POPULI», 1996 Г.

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# «БЕЛАРУСКІ ТРАНЗІТ»

**На спідометры — 140. У салоне акрамя мяне і вадзіцеля яшчэ чацвёра хлопцаў. Дарэчы, вельмі падобных адзін на аднаго: амаль аднолькавыя скураныя курткі, шырокія плечы, стрыжаныя «пад нуль» галовы.**

Шасцёра ў салоне... Вядома ж, гэта супраць правілаў. Але тут, удалечыні ад населеных пунктаў, на начной дарозе, хваляваецца наконт сустрэчы з паставым не трэба. За вокнамі ў святле фараў праносяцца вялізныя елкі... Нарэшце ўдалечыні пачынаюць мільгацець ледзь бачныя агеньчыкі. Адзін з хлопцаў, нібы чытаючы мае думкі, заўважыў: «Вось гэта яна і ёсць, траса...»

Так пачалася ноч, якую я правёў з брыгадай, што абслугоўвае аўтастраду. Якую дакладна аўтастраду і свае імёны хлопцы прасілі не называць. Але гэта, з іх жа слоў, і не трэба. Бо іх работа амаль нічым не адрозніваецца ад работы іх жа калег у іншых месцах.

Наш «Фольксваген» выязджае на галоўную магістраль, і літаральна праз некалькі хвілін мы ўжо пад'язджаем да месца прызначэння. Аўтазапраўка, невялічкая крама і кіёск, ля якога раскладзена вогнішча. Падыходзім, вітаемся з хлопцамі, што сядзяць вакол яго. Адразу ж да лаўкі бяжыць падлетак гадоў чатырнаццаці, і праз некалькі хвілін прыносіць талеркі з ежай і піва. «Дарэчы, а колькі тут каштуе піва?» — пытаюся я. «Ну, гэта залежыць ад таго, хто бярэ, — усміхаецца адзін з іх. — Калі, напрыклад, падыдзе немец які ці швед, то з яго могуць узяць за бутэльку тысяч 20. Славяне аддадуць дзесяць. Ну а калі падыдзе хто з нас — пяці тысяч будзе дастаткова...»

...Вялізныя фуры праносяцца па аўтастрадзе. Германская, чэшская, расійская... а вось адразу тры фінскія. Сапраўды, перакрыжаванне Еўропы! Некаторыя з машын спыняюцца, накіроўваюцца да запраўкі і, запоўніўшы бакі, ад'язджаюць. Але не ўсе... Некаторыя з іх працягваюць стаяць. Вось да такой нечага чакаючай машыны і накіроўваецца адзін з хлопцаў. Аб чымсьці пагаварыў з шафёрам — і вось ужо да машыны цягнуць каністры. Пытаюся, што яны робяць. У адказ чую: «Запраўляюць». «Як жа так! — не разумею я. — Вунь жа запраўка!» — «Ну, гэта ж дзяржаўная запраўка, — адказваюць мне, — там то ёсць паліва, то яго ўжо няма. А калі і ёсць, дык, бывае, не тое, што трэба чалавеку. Вось мы і дапамагаем». — «А дзе яго бераце вы?» — задаю я пытанне, не вельмі разлічваючы на шчыры адказ. — «Ды ёсць запас! — кажуць мне. — А калі сур'ёзна, то, напрыклад, салярка — вунь, — хлопец махнуў рукой у бок лесу, — калгасы стаяць. А ў калгасах — трактары. А ў трактарах яна, салярка... А вось ім, — з усмешкай стукае па патыліцы падлетка, — таксама на жыццё зарабляць трэба». — «Ну а цана?» — пытаюся я. — «Не, тут мы па-за канкурэнцыяй, — гаворыць усё той жа хлопец. — Паліва дастаецца нам танна, і накручваць цану не трэба».

...Мільгнуўшы фарамі, да нас накіроўваецца «BMW». «Багата жывуць!» — разважаю я, углядаючыся ў твары людзей, што сядзяць у салоне. І чамусьці твары гэтыя мне не вельмі падабаюцца. Вось і субяседнікі мае прыціхлі, сядзяць нейкія напружаныя... Выходзяць двое. Адзін з хлопцаў ціха вылаяўся, другі, злева ад мяне, рэзка ўстаў. Бо новыя знаёмыя з асаблівай пільнасцю разглядалі менавіта яго. «Хадзі, пагаворым», — нетаропка, але вельмі выразна гаворыць адзін. Другі пачынае шукаць нешта ў салоне аўтамабіля... «Ну, уліп!» — разважаю я. І невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але наш хлопец раптам кідаецца па полі да лесу. Першы бандыт (наконт таго, хто яны, не было ўжо аніякіх сумненняў), кінуўся за ім. Але бег ён не вельмі шпарка. Заўважыўшы гэта, яго напарнік пусціўся ў пагоню на аўтамабілі. Але поле было ўзарана, раніцай ішоў дождж, і таму праехаў ён не вельмі шмат... Зразумеўшы, што ўцекача ўжо не дагнаць, яны вяртаюцца да нас. Адзін з іх дастае з кішэні сто долараў і, паказаўшы іх нам, кажа: «Мне трэба ведаць, дзе ён жыве». Але ўсе ў адзін голас яго запэўнілі, што бывае ён тут вельмі рэдка, і дзе ён жыве, ніхто не ведае. Выразна зірнуўшы на нас, яны селі ў машыну і зніклі. Я, нарэшце, змог вымавіць: «Што тут адбываецца?» Мне растлумачылі, што ўсё добра. Проста некалькі дзён таму хлопцы «развялі» тут аднаго, а ў «абшчак» не «адшпілілі». Вось яны і прыехалі па сваё... «Дык вы што, таксама «пад дахам»?» — пытаюся я. На мяне глядзяць са здзіўленнем. «А як жа! Кожны месяц 150 долараў з усёй канторы...»

«Дарэчы, валюта! Вы тут з ёй працуеце?» — пытаюся я. — «Вядома ж! — чую ў адказ. — Таксама добры кусок!» — «А як жа канкурэнты?» — ківаю я на маленькую будачку з надпісам «Абменны пункт». — «Не, — кажуць мне, — яны не канкурэнты. Мы проста бяром і ўсё, што там у іх ёсць набываем».

...Гляджу на гадзіннік; ужо амаль шэсць гадзін, як я тут. «Ну а нетрадыцыйнымі таварамі вы тут гандлюеце?» — раблю далонь у выглядзе пісталета. — «Бывае і такое», — аб гэтым яны гавораць неахвотна.

...Праз паўгадзіны, калі былі скончаны ўсе справы, мы зноў у дарозе. Але на спідометры ўжо — 80. «Чаму?» — пытаюся. — «Усё, — кажуць, — лес скончыўся. На людзі едзем!» І сапраўды, праз некалькі хвілін мы ўжо пад'язджалі да мясцовага райцэнтра.

...Столік у рэстаране, за якім мы сядзім ужо каля дзвюх гадзін, літаральна застаўлены закускай і выпіўкай. Столь ужо даўно расплылася ў тытунёвым дыме. І праз яго я бачу, як за суседнім столікам нашы хлопцы дамаўляюцца аб нечым з трыма дзяўчынамі. Падышла афіцыянтка і нейкім незвычайна ветлівым голасам спытала, ці не трэба чаго яшчэ. Хлопцы адмовіліся і пажадалі разлічыцца. Кожны з іх дастаў з кішэні тоўсты пачак 20- і 50-тысячных купюр, сцягнутых аднолькавымі гумкамі, і пачаў адлічваць паперкі.

...На дыскатэку нас не пусцілі. Я разумеў чаму. Хлопцы — не. Таму, жадаючы павесяліцца, яны пачалі бегаць па вестыбюлі і выкрыкваць час ад часу: «Дзе валына? Пакладу казлоў!» Калі падышоў нарад міліцыі, стала зусім не смешна. Усе адразу гэта зразумелі і пажадалі ехаць дадому. «А як жа дзяўчаты? Трэба ж падвезці!..» — падаю я голас. Яны нават рассмяяліся: «Не, не трэба! Ім тут добра, тут іх хата. Яны ў рэстаране і жывуць!» Здаецца, я моцна пачырванеў...

...Калі вярталіся дадому, у салоне пераважна чуліся тры гукі: працуючы матор, храп і спевы. Адзін з тых, хто спяваў, раптам азірнуўся і, гледзячы на мяне, сказаў: «Хочаш, давай да нас!..» — «Трэба падумаць», — кажу я. — «Ну, глядзі сам...»

І я гляджу. Раптам прыходзіць нечаканая думка: «Дык вось хто вырашыў праблему транзіту для рэспублікі!» Хай і не ў патрэбных маштабах, але... У той час, калі палітыкі вырашалі, якімі шляхамі можна зарабляць на транзіце грошы і ці трэба рабіць гэта ўвогуле, хлопцы ўжо працавалі. І хто падлічыць, колькі грошай яны пакінулі на тэрыторыі рэспублікі!

**Андрэй ТЫКІЧ.**

# Расіі і Украіны ў кастрычніку

## а ў Маскве, у час хваробы Барыса Ельцына, захоўвае лідэрства Віктар Чарнамырдзін

*Міхаіл ПЕТРАЧОЎ — «Независимая газета».*

### 50 вядучых палітыкаў Украіны ў кастрычніку

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Кастрыч. | Верас. | |
| 1. | Кучма Леанід Данілавіч | 8,13 | 8,28 | Прэзідэнт Украіны |
| 2. | Лазарэнка Павел Іванавіч | 7,75 | 8,17 | Прэм'ер-міністр |
| 3. | Гарбулін Уладзімір Паўлавіч | 7,04 | 7,73 | Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі і абароны |
| 4. | Мароз Аляксандр Аляксандравіч | 7.00 | 7,21 | Старшыня Вярхоўнай Рады |
| 5. | Табачнік Дзмітрый Уладзіміравіч | 6,40 | 6,78 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 6. | Юшчанка Віктар Андрэевіч | 5,80 | 6,06 | Старшыня праўлення Нацыянальнага банка |
| 7. | Марчук Яўген Кірылавіч | 4,90 | 4,23 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Сацыяльна-рынычны выбар» |
| 8. | Радчанка Уладзімір Іванавіч | 4,82 | 4,81 | Старшыня Службы бяспекі |
| 9. | Пінзенік Віктар Міхайлавіч | 4,81 | 5,15 | Віцэ-прэм'ер урада, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 10. | Дурдзінец Васіль Васільевіч | 4,72 | 4,56 | Першы віцэ-прэм'ер урада |
| 11. | Удавенка Генадзь Іосіфавіч | 4,57 | 5,15 | Міністр замежных спраў |
| 12. | Сіманенка Пётр Мікалаевіч | 4,55 | 4,59 | Лідэр кампартыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 13. | Пуставойценка Валерый Паўлавіч | 4,34 | 4,73 | Міністр Кабінета Міністраў |
| 14. | Кулік Зіновій Уладзіміравіч | 4,25 | 3,89 | Старшыня Дзяржкамітэта па тэле- і радыёвяшчанню |
| 15. | Краўчанка Юрый Фёдаравіч | 4,09 | 3,88 | Міністр унутраных спраў |
| 16. | Ворсінаў Рыгор Трафімавіч | 4,04 | 3,73 | Генеральны пракурор |
| 17. | Мусіяка Віктар Лаўрэнцьевіч | 4,00 | 3,32 | Намеснік Старшыні Вярхоўнай Рады |
| 18. | Ткачэнка Аляксандр Мікалаевіч | 3,97 | 3,90 | Першы намеснік Старшыні Вярхоўнай Рады |
| 19. | Галаваты Сяргей Пятровіч | 3,95 | 3,97 | Міністр юстыцыі |
| 20. | Асыка Сяргей Рыгоравіч | 3,92 | 4,09 | Міністр знешнеэканамічных сувязей і гандлю |
| 21. | Літвін Уладзімір Міхайлавіч | 3,88 | 3,75 | Першы памочнік Прэзідэнта, кіраўнік групы памочнікаў |
| 22. | Еханураў Юрый Іванавіч | 3,85 | 4,20 | Старшыня Фонду дзяржмаёмасці |
| 23. | Чарнавіл Вячаслаў Максімавіч | 3,82 | 4,15 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Народнага руху |
| 24. | Мінчэнка Анатоль Каленікавіч | 3,73 | 3,94 | Дзяржміністр па справах прамысловай палітыкі і ТЭК |
| 25. | Краўчук Леанід Макаравіч | 3,61 | 3,68 | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 26. | Гецьман Вадзім Пятровіч | 3,60 | 3,62 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Незалежныя» |
| 27. | Кузьмук Аляксандр Іванавіч | 3,5 | 3,61 | Міністр абароны |
| 28. | Гурвіц Эдуард Іосіфавіч | 3,54 | 3,06 | Мэр Адэсы, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 29-31. | Азараў Мікалай Якаўлевіч | 3,50 | - | Кіраўнік Дзяржаўнай падатковай адміністрацыі (з 1.10.96), дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 29-31. | Гурэеў Васіль Мікалаевіч | 3,50 | 3,25 | Міністр эканомікі |
| 29-31. | Суслаў Віктар Іванавіч | 3,50 | 3,46 | Старшыня Камісіі Вярхоўнай Рады па пытаннях фінансаў і банкаўскай дзейнасці |
| 32-33. | Амельчанка Аляксандр Аляксандравіч | 3,46 | 3,50 | Кіраўнік адміністрацыі Кіева |
| 32-33. | Шпек Раман Васільевіч | 3,46 | 3,31 | Старшыня Нацыянальнага агенцтва па рэканструкцыі і развіццю, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 34. | Вітрэнка Наталля Міхайлаўна | 3,44 | 2,91 | Старшыня Прагрэсіўнай сацыялістычнай партыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 35. | Сірата Міхаіл Дзмітрыевіч | 3,41 | 3,54 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Канстытуцыйны цэнтр» |
| 36. | Курас Іван Фёдаравіч | 3,38 | 3,77 | Віцэ-прэм'ер урада |
| 37. | Кастэнка Юрый Іванавіч | 3,31 | 3,88 | Міністр аховы навакольнага прыроднага асяроддзя і ядзернай бяспекі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 38. | Уладзімір | 3,28 | 3,09 | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны (УПЦ Маскоўскага Патрыярхату) |
| 39. | Пятрэнка Віктар Міхайлавіч | 3,08 | - | Старшыня Нацыянальнага савета па тэлерадыёвяшчанню |
| 40. | Собалеў Сяргей Уладзіслававіч | 3,07 | 3,31 | Дэпутат Вярхоўнай рады, лідэр фракцыі «Рэформы» |
| 41. | Шчэрбань Уладзімір Пятровіч | 3,02 | 3,20 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Ліберальнай партыі |
| 42. | Філарэт | 3,00 | 3,16 | Патрыярх Кіеўскі і ўсяе Украіны — Русі (УПЦ Кіеўскага Патрыярхату) |
| 43. | Матвіенка Анатоль Сяргеевіч | 2,97 | 3,42 | Кіраўнік палітсавета Народна-дэмакратычнай партыі, кіраўнік дзяржадміністрацыі Вінніцкай вобласці |
| 44. | Горынь Мікалай Мікалаевіч | 2,95 | 2,38 | Кіраўнік дзяржадміністрацыі Львоўскай вобласці |
| 45-46. | Кінах Анатоль Кірылавіч | 2,95 | 3,22 | Старшыня Саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў |
| 45-46. | Чыж Іван Сяргеевіч | 2,95 | 2,90 | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі Сацыялістычнай партыі |
| 47. | Цімчанка Іван Арцёмавіч | 2,91 | - | Старшыня Канстытуцыйнага суда (з 18.10.96) |
| 48. | Дзёмін Алег Аляксеевіч | 2,90 | 2,81 | Кіраўнік дзяржадміністрацыі Харкаўскай вобласці |
| 49. | Тарасюк Барыс Іванавіч | 2,89 | 3,35 | Пасол Украіны ў краінах Бенілюкса і ў ЕС |
| 50. | Стаян Аляксандр Мікалаевіч | 2,88 | 2,93 | Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў, дэпутат Вярхоўнай Рады. |

**«НЕЗАВИСИМАЯ ГАЗЕТА», СЛУЖБА «VOX POPULI», КЦПДК, 1996 Г.**

**Служба вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» і «Независимая газета» (Масква) сумесна з фірмай «Скарына» (Мінск) і Цэнтрам палітычных даследаванняў і канфліктАлогіі (Кіеў) працягваюць вызначэнне 50 найбольш уплывовых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны па выніках штомесячнага апытання экспертаў.**

У папярэдніх спісах для вызначэння 50 найбольш уплывовых палітыкаў былі прадстаўлены найбольш прыметныя фігуры заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў трох краін, лідэры вядучых палітычных партый і грамадскіх арганізацый, вядомыя рэлігійныя дзеячы, рэгіянальныя кіраўнікі, якія дзейнічаюць на агульнадзяржаўным узроўні. Меру іх уплывовасці вызначалі ў Мінску — 55, у Маскве — 53, у Кіеве — 46 экспертаў. Гэта кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі, палітычныя аглядальнікі і вядучыя палітолагі. У апытанні прымалі ўдзел эксперты рознай (ліберальнай, нацыянал-дэмакратычнай, цэнтрысцкай і сацыялістычнай) арыентацыі.

У Беларусі апытанне праводзілася з 25 па 30 кастрычніка, у Расіі — з 23 па 25, а на Украіне — з 28 кастрычніка па 2 лістапада.

Спіс 50 вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь кожны месяц публікуецца ў газеце «Имя», а ў Расіі і Украіне — у «Независимой газете» (Москва). На аснове гэтых публікацый, спецыяльна для «Звязды», рыхтуецца падагульняючы матэрыял аб палітыках трох братніх славянскіх дзяржаў.

### РАСІЯ

У кастрычніку на самай вяршыні палітычнага алімпу Расіі аказаліся тры чалавекі: прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін (1), кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Анатоль Чубайс (2) і Прэзідэнт РФ Барыс Ельцын (3), якія пераадолелі 7-бальны бар'ер і значна «адарваліся» ад астатніх дзяржаўных дзеячаў. На гэты раз Аляксандр Лебедзь (4) і Юрый Лужкоў (5), а таксама міністр унутраных спраў Анатоль Кулікоў (6), які «далучыўся» да іх, утварылі другую па ўплывовасці тройку расійскіх палітыкаў, што пераадолелі бар'ер у 6 балаў. Пры гэтым Лебедзь, відавочна, знізіў сваю «палітычную вагу» ў вачах экспертаў, а Кулікоў рэзка (на 1,74 бала) набраў яе, падняўшыся, у параўнанні з вераснем, на дзесяць ступенек.

Закранаючы іншыя перамены, неабходна адзначыць, што пасля працяглага перапынку ў першую дзесятку зноў увайшоў старшыня Дзярждумы, член Кансультатыўнага савета Генадзь Селязнёў (9) і ўпершыню — новы намеснік сакратара Савета бяспекі РФ, старшыня Савета дырэктараў АТ «ЛагаВАЗ» Барыс Беразоўскі, які падзяліў з міністрам замежных спраў Яўгенам Прымаковым 10-11-е месцы. (Рэйтынг самога нядаўна назначанага сакратара Савета бяспекі Івана Рыбкіна эксперты апошнія 7 месяцаў не ацэньвалі.) Да вяршыні палітычнага алімпу наблізілася таксама малодшая дачка Барыса Ельцына Таццяна Дзьячэнка, якая падзяліла ў кастрычніку 14-15-е месцы з міністрам абароны Ігарам Радзівонавым.

### РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў кастрычніку, на думку экспертаў, вярнуў страчаны на месяц статус самага ўплывовага дзяржаўнага дзеяча. Кіраўнік дзяржавы даволі паспяхова правёў Усебеларускі народны сход сваіх прыхільнікаў і паказаў сябе гібкім палітыкам, які дзейнічае строга ў рамках прававога поля. Не апраўдаліся шматлікія катастрафічныя прагнозы адносна магчымага канфлікту вакол даты правядзення рэферэндуму.

У кастрычніку Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, па выніках экспертнага апытання, заняў у спісе вядучых палітыкаў 2-е месца, а старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня падняўся з пятай пазіцыі на трэцюю. Менавіта гэтыя тры вышэйшыя кіраўнікі выканаўчай, заканадаўчай і судовай уладаў цяпер як бы акумулююць палітычны ўплыў усіх сіл, якія ўдзельнічаюць у канстытуцыйнай рэформе ці процістаяць ёй. У верасні найбольш паспяхова нарошчваў свой палітычны патэнцыял Сямён Шарэцкі, а ў кастрычніку — Аляксандр Лукашэнка, а таксама Валерый Ціхіня.

Усяго ў спіс вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь у кастрычніку ўвайшлі: 21 дэпутат Вярхоўнага Савета, 10 кіраўнікоў прэзідэнцкіх структур, 5 членаў урада і 14 прадстаўнікоў іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. У верасні гэтыя органы ўлады ў «клубе 50-ці» прадстаўлялі адпаведна 18, 9, 8 і 15 палітыкаў. Відаць, цалкам заканамерна, што напярэдадні рэферэндуму на алімпе ўлады ўзмацнілі свае пазіцыі процілеглыя парламенцкія і прэзідэнцкія структуры. У мінулым месяцы ў спісе вядучых палітыкаў аказалася рэкордна нізкае прадстаўніцтва членаў урада (прэм'ер, два кіраўнікі МЗС, міністр унутраных спраў і міністр фінансаў).

### УКРАІНА

Кастрычніцкая іерархія ступені ўплыву першых шасці палітыкаў Украіны дакладна паўтарае карціну верасня. 1-е і 2-е месцы ў спісе найбольш уплывовых палітыкаў займаюць, адпаведна, прэзідэнт Украіны Леанід Кучма і прэм'ер-міністр Павел Лазарэнка, разрыў паміж першым і другім узрос. 3-е месца захаваў за сабой сакратар савета нацыянальнай бяспекі і абароны Уладзімір Гарбулін, які крыху апярэдзіў спікера парламента Аляксандра Мароза. 5-е месца, нягледзячы на няспынную кампанію дыскрэдытацыі, да якой у кастрычніку падключылася і Вярхоўная Рада Украіны, утрымлівае Дзмітрый Табачнік.

Упершыню ў дзесятку найбольш уплывовых палітыкаў месяца трапіў першы віцэ-прэм'ер урада Васіль Дурдзінец. Гэта адбылося хутчэй за ўсё ў сувязі з яго роляй ва ўкраінска-расійскіх перамовах па Чарнаморскаму флоту.

Прыметна ўзмацнілі свае пазіцыі два рэгіянальныя лідэры — мэр Адэсы Эдуард Гурвіц (28-е месца) і львоўскі губернатар Мікалай Горынь (44-е месца). Гурвіц у кастрычніку вызначыўся тым, што паляцеў выручаць украінскіх будаўнікоў, якія ўтрымліваліся ў Чачні, і выручыў іх, а Горынь паляцеў у Кіеў да прэзідэнта выручаць свайго намесніка з-пад варты і выручыў яго. У выніку — скачок таго і другога наверх прыкладна на 20 пазіцый.

*12 лістапада 1996 года ў 7 гадзін 30 хвілін на 286-м км шашы Брэст—Мінск—мяжа Расіі паблізу в. Ябланаўка Стаўбцоўскага р-на адбылося сутыкненне аўтамашыны «Джып-Чэрокі» транзітны нумар Германіі KL-ECZ-92, якім кіраваў Майсеня А. І., і аўтамашыны «ГАЗ-53» дзяржнумар 51-75 БНЛ, якім кіраваў Гурэцкі В. В., у выніку чаго вадзіцель Майсеня А. І. памёр па дарозе ў бальніцу.*

*Сведкаў гэтага здарэння просім пазваніць у ДАІ Мінскай вобласці па тэлефонах: 259-14-44, 254-42-44 ці 259-16-60.*

*З НАГОДЫ АДНАГО АРТЫКУЛА*

## ЦІ ЎСЁ МОЖА МІНІСТР?

У лютым гэтага года Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль», падагульняючы зробленае для ахвяр глабальнай катастрофы ў краіне за 10 гадоў, прыняў і надрукаваў у газеце «Набат» № 2 заяву «Аб неадпаведнасці дзейнасці Міністэрства па надзвычайных сітуацыях узроўню нацыянальных задач». Гэта было наша бачанне сітуацыі і адначасова бачанне дзяржаўнай установы ў гэтай сітуацыі на фоне самых значных праблем. Як ні дзіўна, у сценах неардынарнай дзяржаўнай ўстановы сёй-той з адказных супрацоўнікаў імкнуўся адно пудрыць ружоваю пудрай цьмяны чарнобыльскі фон.

Публікацыя ў «Набаце» магла выклікаць нязгоду, спрэчкі з боку кіраўнікоў міністэрства, бо там была непрыемная крытыка.

Аднак міністэрства не выкарыстала свайго права і ў нейкай меры абавязку ў бліжэйшыя тыдні ці месяцы адказаць рэдакцыі і аўтарам на крытыку, а ў маі «Набат», на жаль, перастаў выдавацца з-за адсутнасці сродкаў.

Толькі ў маі міністр І. А. Кенік і нагадаў нам, што ён помніць пра публікацыю. На яго думку, аднак, артыкул у «Набаце» павінен быў разглядзець суд. Справа зацягнулася, ды і ў міністра Keніка хапала іншых праблем. Затое міністэрскія юрысты, у якіх, вядома, няма тых іншых клопатаў, шукаюць цяпер хатнія адрасы аўтараў публікацыі, каб яшчэ раз павалтузіцца з намі.

Тым часам мы ўважліва прачыталі абвінавачанне Івана Альбінавіча Кеніка ў прыніжэнні намі ягонага гонару. Ён патрабуе ад нас прызнаць свае памылкі і папрасіць у яго прабачэння.

Справа далікатная, і, калі па шчырасці, міністр мае рацыю. Рыхтуючы артыкул да друку, мы не ўлічылі, што не ва ўсіх выпадках і не за ўсіх сваіх падначаленых, за іх хібы, пралікі, зламысныя дзеянні адказвае міністр. У выніку атрымалася пэўнае зрушэнне акцэнтаў: у падтэксце «стаіць» канкрэтная асоба, напрыклад, намеснік міністра, а папрок — проста кіраўніцтву міністэрства. А гэта значыць І. А. Кеніку ў першую чаргу. З боку аўтараў тут бракуе карэктнасці.

Па тэксту артыкула трэба сказаць, што мы часам задужа эмацыянальна і запальчыва характарызавалі тую ці іншую рэч, дзеючую асобу або ў цэлым кіраўніцтва ўстановы, і зноў — цень на Івана Альбінавіча. Ці ўсё можа міністр?..

Падобныя моманты ёсць, і мы можам прызнаць іх без усякіх судоў. Прызнаём. Таму ад імя членаў савета і іншых асоб, якія падпісалі артыкул, я шчыра перапрашаю паважанага міністра за ненаўмыснае зрушэнне акцэнтаў у артыкуле і прынесеныя яму перажыванні з гэтай нагоды.

Разам з тым не магу не адзначыць, што названы вышэй артыкул у «Набаце» быў складзены аўтарамі і надрукаваны з пачуццём самай высокай грамадзянскай адказнасці. Увогуле, як гэтым артыкулам, так і іншымі сваімі публікацыямі мы імкнуліся перасцерагчы міністэрства ад спаўзання на пазіцыі тых, хто не бачыць за Чарнобылем ніякай бяды і нічога не робіць дзеля выжывання нашых дзяцей, народа наогул.

Мне вельмі хацелася б, каб у міністэрстве паразумеліся і крытычна ацанілі падобныя згубныя тэндэнцыі.

**Васіль ЯКАВЕНКА,**
**прэзідэнт БелСаЭС «Чарнобыль».**

## *Віншаванні*

*Шчыра віншуем **Эдуарда Барысавіча Лапкоўскага** з днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя, дабрабыту і добрага настрою на доўгія гады.*

**Жонка, дачка, зяць і ўнукі,** *в. Замасточча.*

*Віншуем дарагіх бацькоў **Канстанціна Міхайлавіча** і **Вольгу Міхайлаўну** з саракагоддзем сумеснага жыцця. Жадаем моцнага здароўя, радасці і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Сям'я Віхор,** *в. Петухоўшчына.*

*Паважаная **Раіса Аляксандраўна Каляда!** Віншую Вас з днём нараджэння. Жадаю здароўя, радасці ў сям'і, любові, маладосці.*

**Сябар.**

*З залатым юбілеем сумеснага жыцця віншуем дарагіх маму і тату **Антаніну Нікіфараўну** і **Івана Савельевіча Навуменак**. Моцнага здароўя, дабрабыту, светлых і шчаслівых дзён жыцця.*

*Сардэчна віншуем дарагога і любімага **Аляксандра Прасняка** з Мінска з днём нараджэння. Здароўя, настрою, шчасця.*

**Родныя са Слоніма.**

*Дарагія нашы мама і тата, **Ніна Іосіфаўна** і **Генадзь Іванавіч Місько,** віншуем вас з 65-годдзем. Зямны вам паклон за турботы, за ласку і клопат руплівы. Вам зычым на доўгія гады здароўя і долі шчаслівай.*

**Дзеці і ўнукі з в. Парачаны Лідскага раёна.**

*Віншуем з днём нараджэння дачушку і сястру **Таццяну Уладзіміраўну Паляшук.** Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе і ўсяго найлепшага.*

**Тата, мама, браты Коля і Лёша.**

Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 786390 серыі А, выдадзенае на імя **Чыстага Аляксандра Аляксеевіча,** лічыць **несапраўдным.**

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ!*

# СКАРБЫ НЕ ЗНІКАЮЦЬ



Аднойчы ў дзяцінстве я хварэў доўга і цяжка. У тагачаснай пасляваеннай вёсцы панавала галеча, ды і страху хапала.

Доктар у раёне быў, але мяне лячылі вясковыя шаптухі. Успамінаю, як маці вяла мяне за руку па вуліцы, а галава мая, быццам агромністы шар: перад вачыма ўсё гойдаецца і выпучваецца.

Старая Чвырча здымала з мяне перапуд. Над маёй галавой трымалі міску з вадою, а знахарка штосьці шаптала і вылівала ў яе расплаўлены воск, які застываў карабатай пласцінай. Чвырча разглядала яе і па ўзору з пухіроў і дзірак бачыла, хто мяне напалохаў. Толькі на сёмы раз воск у вадзе застыў роўна і гладка. Вылечыла мяне знахарка ці я акрыяў сам, цяжка сказаць. Можа, гэта было запаленне мазгоў ці зацяглая форма грыпу, але з той пары са мною пачалі адбывацца дзіўныя рэчы. Рэальнае жыццё пераблыталася са сном. Бывала, прачнешся і не ведаеш, было гэта з табой у сне ці на яве. Так, пра некаторыя эпізоды з майго жыцця я і сёння не магу дакладна сказаць, што яны не прысніліся.

Але ўсё гэта пачало праясняцца ўжо ў сталым узросце, а пакуль хадзіў у школу, мала аб чым задумваўся. Хаця адзін эпізод і запомніўся назаўсёды.

Я тады, здаецца, вучыўся ў другім класе. Неяк, калі ў нашай хаце было невялікае застолле, я сказаў, што памятаю сябе ў пялёнках.

— Скажы, Ванька, што ты запомніў, — пацікавіліся госці.

— Я ляжаў на ложку, а тут пад столлю вісела лямпа... з такім жоўтым абажурам, а тут... на сцяне карцінка на шкле, — расказваў я. Мне ўжо далі крыху пацягнуць самагонкі, і я гаварыў весела-ўзбуджана.

— І праўда! — здзівілася маці.

— А мама падмятала падлогу, — працягваў радасна я, — а тут зайшоў нямецкі салдат і пачаў маму абдымаць...

Госці пачалі смяяцца.

— Трэба ж такое выдумаць, — успыхнула маці, а затым на кухні моўчкі мне па шчоках — ляпсь-ляпсь.

Калі б не тыя аплявухі, то я і сам не дужа верыў бы гэтаму. Адкуль гэтая карцінка выплыла? Не інакш прыснілася, бо ці можа штосьці памятаць трохмесячнае немаўлятка?

Дзяцінства, як і маладосць, пралятае на адным дыханні. Тады мала звяртаеш на ўсё ўвагі. Бегаеш-лётаеш, сёння закахаўся ў адну, а заўтра ў другую...

Канчаткова я вырашыў, што сны мае маюць нейкую падаплёку, калі ў сорак гадоў прысніў эратычны сон. А снілася, што я займаюся каханнем з маладзіцай, якую часам сустракаю ў сваім мікрараёне. Усё ясна, як у сацрэалізме. Я не толькі бачыў дзве радзімкі на яе левым сцягне, але і адчуваў іх пад сваімі пальцамі.

Калі праз дзень я ўбачыў гэтую жанчыну ў гастраноме, то міжвольна ўсміхнуўся. Прыгледзеўся. Нічога такога. Жанчына як жанчына, але каб такія страсці?!

Усё губляе з часам яркасць, сон забыўся, а жанчына таксама кудысьці знікла. Толькі іду я гарачым летнім днём са сваім норнікам па лесапарку, як сустракаю тэтую самую маладзіцу. Паўсюдна загараюць людзі, мая Норма мітусіцца ў траве. І тут да сабакі з дубчыкам бяжыць дзіцятка, такі бялявы хлопчык, а за ім мама ў блакітным купальніку, у цёмных акулярах.

— Алежка, не чапай сабачку, — гаворыць жанчына і здымае акуляры. Гэта яна, тая самая маладзіца. І тут я ўбачыў дзве радзімкі на левай назе. Дзве карычневыя плямкі, якія гладзіў у сне.

Я даволі цынічны чалавек і не веру ні ў якія там забабоны і звышсілы, але тут прызадумаўся.

Пасля гэтага я прааналізаваў многія свае сны і зразумеў, што некаторыя з іх не былі адбіткам штодзённай мітусні, а неслі пэўную інфармацыю.

Памерла мая бабка Ганка, а за тыдзень да яе смерці я бачыў сон. Стаю са сваёй бабуляй у канцы агарода, з выгану паўзе туман. Бабка і кажа: «Ну, то я пайшла». Пераступіла праз дрот і схавалася ў тумане.

Цяпер пра ўсё можна разважаць, але за пяць гадоў да распаду СССР я бачыў прарочы сон. Я сяджу за партай у сваёй сямігадовай школе на ўроку гісторыі. Дырэктар школы, Канстанцін Іванавіч, вядзе ўрок. Я гартаю кнігу, затым падымаю галаву і бачу, што спінай да класа стаіць не дырэктар, а Міхаіл Гарбачоў, якога толькі што выбралі генеральным сакратаром. Ён водзіць указкай па карце Савецкага Саюза, і пад указкай карта распаўзаецца.

Праўда, каб у той час хто заявіў, што Саюз развaліцца, яго палічылі б вар'ятам.

Па тэлевізару паказвалі аднаго рамантыка, які шукаў скарб, вывезены французамі з Масквы. Летуценнік робіць выкладкі, паказвае схемы і ў смярдзючым возеры спадзяецца знайсці срэбра ды золата. Але замест скарбу з вады выцягваюць рэшткі самалёта мінулай вайны.

«Добра было б прысніць, дзе ўсё гэтае багацце прыхавана» — падумаў я, і гэтая думка не пакідала мяне. Пачытаў энцыклапедыю, паглядзеў карты напалеонаўскіх войнаў, а перад сном пагартаў «Вайну і мір». Хацеў настроіць мазгі на зададзеную тэму. Ды толькі дзе там. Заплюшчыў вочы і паўстаюць кадры з фільма Бандарчука, і чамусьці тоўсты П'ер Бязухаў у круглых акулярах часцей за ўсё мітусіцца перада мною.

А прысніўся мне ў гэтую ноч Ерусалім. З поўдня дзьме гарачы вецер, я спускаюся па камяністай сцяжынцы ў горад, які раскінуўся ўнізе, якраз такі, якім я бачыў Ерусалім на панарамнай фатаграфіі з турыстычнага праспекта. Зіхацяць залаты купал мячэці над светлым горадам. Падыходжу да бэжавай, з пукатага камення сцяны, у цяні якой сядзіць чалавек. Чорныя валасы з лёгкім налётам сівізны збіліся ў тлустыя пейсы, на параненых нагах стаптаныя сандалі. Белы сабака паклаў на калені яму галаву і дрэмле. А крыху збоку, пад дрэвам, група мужчын абедае. Па чарзе прыкладваюцца да бурдзюка, штосьці жуюць і весела гамоняць.

— Ты Ісус? — чамусьці пытаюся я ў чалавека. Ён моўчкі глядзіць на мяне і махае перад тварам рукой, адганяе мух.

— Ты месія? — зноў пытаюся, хаця ўпэўнены, што перада мною менавіта ён — Хрыстос.

— Я ёсць той, хто ёсць! — адказаў Ісус і варухнуўся.

— Настаўнік! — кажу я, успомніўшы, як называлі Хрыста ў Евангеллі, — цябе адправяць на крыж.

Ісус уважліва паглядзеў на мяне, затым, пазіраючы кудысьці ўдалячынь, спытаў:

— А гэтая тайна табе адкуль вядома?

— Пра гэта ў Бібліі напісана. Кнігі ў Евангеллі напісаны... — гавару я і пазіраю на мужчын пад дрэвам, на вучняў Хрыста.

— Толькі яны пісаць не ўмеюць, а хто сам не бачыў, хіба ёсць сведка? — сказаў Ісус задуменна.

— А на трэці дзень ты ўваскрэснеш з мёртвых, — кажу я няўпэўнена.

Хрыстос нічога не сказаў і падняўся, зноў паглядзеў на мяне ўважліва і спытаў:

— Баліць? — І правёў лёгенька рукой ад майго левага пляча ўніз. Хрыстос пайшоў да дрэва і за ім, апусціўшы галаву з высунутым языком, паплёўся стары сабака.

Я хацеў яшчэ спытаць у Ісуса пра Лазара, але ўбачыў, што сяджу ў «BMW» айца Мікалая. Бацюшка круціць абаранак левай рукой, а правай устаўляе касету ў магнітафон.

— А гэта што за народ? — ківае бацюшка.

— То Ісус з вучнямі ў Жыровічы ідзе!

— Зараз падкінем! — кажа айцец Мікалай і цісне на газ, але машына тузанулася і заглухла. Я стукнуўся галавой аб «бардачок» і прачнуўся.

Гэтай раніцай было надзіва лёгка. Жонка мірна пасопвала побач, а я стараўся прыпомніць, на якой мове размаўляў з Хрыстом. На рускай ці на беларускай? Але так і не здолеў успомніць.



Прастудзіўся і пайшоў у паліклініку. Тэрапеўт сустрэла ветліва.

— Даўно да нас не заглядвалі. Што ў вас? Распранайцеся.

Урач доўга мяне слухала, але нічога не гаварыла. Затым перагортала маю картку.

— Вы што, лячыліся?

— Не-е.

— Пайдзіце зрабіце кардыяграму.

Праз дваццаць хвілін я вяртаюся назад. Дакторка ўважліва праглядае папяровую ленту.

— Нічога не разумею. Куды прапала ваша ішэмія?

— Прапала, доктар.



Пра скарб я забыўся, а ён усплыў праз некалькі гадоў. Нечакана. Пасля сваркі з жонкай я з'ехаў да бацькоў на вёску. Вечарам выпіў з бацькам па чарцы і потым доўга не мог заснуць. Варочаўся на матчыных туга набітых падушках. Здавалася, так пройдзе ўся ноч, але сон падкраўся неўпрыкметку і працягваўся адно імгненне, хаця і падаўся вельмі доўгім.

Імператар вылез з карэты. Узяўся рукамі за паясніцу і прагнуўся. Падаў мокры снег на капялюш і плашч Напалеона, якія хутка сталі белымі. Імператар ішоў за карэтай, а следам ехалі ўланы. Я стараюся параўняцца з Напалеонам, але грузну ў перамешаным снезе і мне прыходзіцца ісці за ім след у след.

— Сір! — кажу я імператару ў спіну і бачу, як галава Напалеона ўвайшла ў плечы. Ён спыніўся на імгненне і сутулена пайшоў далей. — Два месяцы ў Маскве і каб вось так... назад... не трэба было чакаць, — разважаю я, і імператар павярнуўся рэзка, усім целам. Узляцела рука ў белай пальчатцы, і ўказальны палец імператара ўткнуўся мне ў сонечнае спляценне.

— Прастора. Сі-і-ір! — варухнуў тонкімі губамі імператар і апусціў руку. Я плюхнуўся тварам у снежную кашу, да ног Напалеона. Калі я падняўся, то ўбачыў, што імператарскай карэты няма, а перада мной рыпяць нейкія вазы з нейкімі куфэркамі і скрынямі, прыкрытыя зверху бруднымі палотнішчамі.

Рускія палонныя памагаюць коням, падпіхваюць з бакоў вазы. У аднаго палоннага ногі абкручаны анучамі, на якіх навіслі камякі гразі. Стаіць позняя восень. Праехалі мястэчка, і я сам сабе адзначаю: «яно наша». А потым тры вазы збочылі з галоўнай дарогі да лесу.

Палонныя капалі ямы, а я глядзеў на той галоўны арыенцір, які паказваў, дзе закапаны скарб. Возера можа стаць балотам і перасохнуць, а ён будзе стаяць доўга.

Скрынкі апусцілі ў ямы і засыпалі, але не поўнасцю. Прынеслі некалькі крыжоў, белых, драўляных, і паклалі каля ямаў. Затым рускіх салдатаў французы паставілі каля ямаў і завязалі вочы. Французы ўскінулі ружжы, афіцэр падняў руку, але тут жа павярнуў галаву ў мой бок, дастаў з-за пояса пісталет і наставіў мне прама ў лоб. Я закрычаў і прачнуўся.



Пазнаёміўся з маршрутам адступлення французаў, наколькі гэта магчыма ў правінцыяльным горадзе. Зрабіў са стальнога дроту разборны шчуп. Пакруціш за корбачку — і праз хвілін дзесяць ужо на глыбіні паўтара метра. Узяў веласіпед, спальны мяшок, сёе-тое з правізіі, сеў на электрычку і ў жніўні гэтага года я быў ужо на граніцы з Расіяй.

За дзвесце гадоў лясы сталі палямі, зніклі дарогі і рэчкі, але не яны мяне цікавілі: я шукаў той, галоўны арыенцір. І на дванаццаты дзень знайшоў яго. Ён крыху змяніўся, хаця сумнення не было: менавіта на яго я пазіраў у сне. Але самым складаным аказалася знайсці тую кропку, з якой я глядзеў на гэты арыенцір. Як тады снілася, справа ад яго раслі тоўстыя дрэвы, а за імі стаяў лес, а злева да пагорка цягнулася азярцо. Вядома, што нічога гэтага цяпер не было. Праўда, злева была нейкая лагчынка, але не болей таго. Хаця гэтая ўпадзінка магла якраз і быць тым самым возерам. Кропку на прамой да арыенціра я яшчэ не знайшоў, але сама прамая была дакладнай, бо калі адыходзіў управа ці ўлева, арыенцір набываў іншыя абрысы. Праз тры дні я быў абсалютна ўпэўнены, што стаю менавіта на тым пагорку, які бачыў на матчыных падушках.

Затым я заехаў у вёску, купіў бутэльку гарэлкі, нейкіх там кансерваў і вярнуўся назад. Была вялікая спакуса раздабыць рыдлёўку і ўзяцца за раскопкі, але здаровы сэнс узяў верх. Да вёскі недалёка, а парушыш зямлю — прыцягнеш увагу. На бліжэйшым полі зграбалі абмалочаную салому, усё на відавоку. Трэба ўпэўніцца, што скарб тут. А там будзе відаць. Вырашыў папрацаваць шчупам увечары.

Да змяркання было яшчэ далекавата, я выпіў чарку гарэлкі, прыкусіў кількай у тамаце і паклаў каменьчыкі, каб у цемнаце не працаваць навобмацак і не выйсці за пэўныя межы. Паспрабаваў заснуць у палатцы і не здолеў. Выпіў яшчэ і ляжаў на гэтым пагорку, глядзеў у далёкае неба і думаў, што ўсё на свеце вельмі дзіўна. Праз некалькі гадзін я магу стаць вельмі багатым чалавекам, а яшчэ летам не было за што і хлеба купіць. Над галавой кружыла чародка буслоў, і моцна пахла дзяцелінай. Заплюшчыў вочы і заснуў.

І я зноў сяджу на малюсенькім услончыку ў старой Чвырчы. Шаптуха трымае пад маёй лысінай міску з вадой і шэпча-цэдзіць: «Страх твой у табе сядзіць».

Воск зашыпеў у вадзе, і я ўсхапіўся. Неба было светлым, а зямлю ахутала сутонне. Можа, ад выпітай гарэлкі, альбо ад празмернага перажывання, але рукі ў мяне трэсліся, калі я адкінуў каменьчык і загнаў шчуп у зямлю. На глыбіне метра шчуп у штосьці ўпёрся. Можа камень, а мо і не. Другая спроба закончылася на глыбіні амаль паўтара метра. Трэцяя... пятая... сёмая і восьмая таксама застылі на гэтым узроўні.

Ужо моцна сцямнела, калі я адкінуў трапіўшы ў траве пад руку камень і пачаў круціць корбачку. Напачатку шчуп ішоў вельмі лёгка, але дзесьці пасля метра яго ўжо цяжка было пракруціць. Паспрабаваў выцягнуць і адчуў, што зрабіць гэта будзе складана. Канец шчупа быў зроблены як гарпунчык, які лёгка ўваходзіў, але не так лёгка даставаўся. Дрот рэзаў рукі. Прыйшлося зняць кашулю і абматаць ёю кісці. І як толькі ўдалося шчуп сарваць з месца, ён пайшоў даволі лёгка. Я абмацаў гарпунчык і адчуў, што на ім штосьці ёсць. Вісяць ніткі, нейкія каменьчыкі... Уключыў ліхтарык і тут жа патушыў.

Над галавой зоры, а я стаю ў полі на каленях, сціскаю ў руцэ абарваны ланцужок рачнога жэмчугу і гавару на ўвесь голас:

— Госпадзі! Усё ў тваіх руках. І не пакінь цяпер мяне.

Назад вярнуцца ў цемры я не здолеў і начаваў у скірдзе саломы. Усю ноч я то плакаў, то смяяўся, а як толькі пачало днець, падаўся да пагорка, які апынуўся зусім у іншым баку, чым я думаў. Хоць ноч і была цёплая, але ў майцы пад восень можа хадзіць той, хто напіўся альбо з'ехаў з глузду

Нацягнуў кашулю і світэр, выпіў астатнюю гарэлку і сабраў шчуп. На пагорку навёў парадак, каб і следу не засталося.

Выкапаць скарб неўпрыкметку аднаму не ўдасца. Тры вазы — гэта не тры кашы. Не знесці. Аддаць дзяржаве? Нашы інтэгратары аддадуць усё назад і забудуць пра Радзівілаўскую бібліятэку, пра калекцыю слуцкіх паясоў, пра... А пра мяне тым больш.

Вось і чакаю, што ў сне прыйдзе азарэнне і ўсё стане ясным. Праляжаў скарб сто дзевяноста гадоў, пачакае і яшчэ.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*ЗДАРЭННІ*

## «Наехаў» на ахову...

Ведаў бы, дзе паслізнешся, саломкі падсцяліў бы — яшчэ раз пераканацца ў слушнасці гэтай народнай мудрасці, безумоўна, давядзецца нідзе не працуючаму жыхару вёскі Карзуны Чэрвеньскага раёна, які на сваёй іншамарцы спыніў у гарпасёлку Смілавічы трох пешаходаў і «выставіў» прэтэнзіі: маўляў, хлопцы перашкаджалі яму ехаць. Як сцвярджае народнае «радыё», нахабнік нават запатрабаваў «за крыўду» бутэльку гарэлкі. Ведаць бы яму, што пешаходы працуюць у Галоўным упраўленні аховы Адміністрацыі Прэзідэнта! Калі гэтая акалічнасць была высветлена, гора-вадзіцеля даставілі ў мясцовае аддзяленне міліцыі. Там і ўстанавілі, што ўладальнік іншамаркі знаходзіўся за рулём у нецвярозым стане. Акрамя таго, у легкавіку быў знойдзены абрэз! Напэўна, пасля гэтага вадзіцель яшчэ не раз пашкадуе аб тым, што зачапіў бяскрыўдных прахожых.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 28 лістапада

### Беларускае тэлебачанне

**9.25** «Дзядзечка Агу», «Дзядзечка Агу ў горадзе». Мультфільмы. **10.20** «Першы канцэрт». Кароткаметражны фільм. **10.55** Каралеўскае паляванне. **11.35** Госці ў хату. Культура не ведае межаў. **12.05** Дзённік кінафестывалю «Лістапад-96». **15.00** Навіны. **15.10** «Нахабнічак». Маст. фільм. **16.05** «Дзе лебедзі зімуюць». Кінанарыс. **16.15** Тэлебачанне — школе. Пазакласнае чытанне. 3-ці клас. Артур Вольскі — дзецям. **16.35** Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. **17.00** Творцы. Літаратары Валожыншчыны. **17.25** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.55** Гісторыя і архітэктура вёскі Наносы Мядзельскага раёна. **18.25** Музычны антракт. **18.35** Эканамікст. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.00** «Оскар». Тэлегульня. **19.35** «Трапічная спёка». **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** «Да міру, храма і згоды». Дабрачынны канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, Расіі, Украіны. Частка 2-я. **23.25** «Крок». Праграма для моладзі. **23.55** «Языльская дзесятка-96». Міжнародны лёгкаатлетычны прабег. **0.15** Навіны.

### ГРТ

**11.00** Навіны. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету». **11.55** Яўген Еўсігнееў у фільме «Начныя забавы». 1-я серыя. **13.10** Ералаш. **13.30** Брэйн рынг. **14.00** Навіны. **14.20** «Касмічныя ратавальнікі лейтэнанта Марша». **14.45** Лега-го! **15.10** Цін-Тонік. **15.40** «Карын і яе сабака». **16.05** Рок-урок. **16.30** «Вакол свету». **17.00** Навіны. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.30** «Джэнтльмен-шоу» на Першым канале. **19.00** Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я». **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.45** «Залаты кадр». Сустрэча з акадэмікам Д. С. Ліхачовым. **22.30** Навіны. **22.45** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава. **23.35** Прэс-экспрэс.

### Расія

**8.55** «Санта-Барбара». **9.50, 23.25** Тавары — поштай. **10.20** «Вялікая перамена». 3-я серыя. **16.20** Блак-нот. **16.35** «Чэленджэрс». **17.20** Пецярбургскія сезоны. **17.45** Вялікі грамадзянін Расіі. **18.00** Новае «Пятае кола». **18.40** Асабліва важныя персоны. **19.30** «Санта-Барбара». **20.30** Людміла Іванова ў праграме «Бочка мёду». **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.10** «Вандроўнік». Маст. фільм (ЗША). **22.05** Д. Ліхачоў у праграме «Момант ісціны». **23.35** Тыдзень «Высокай моды». **23.50** Музыка ўсіх пакаленняў. **0.05** Хто на што здатны. **0.15** Не спі і глядзі.

## РАДЫЁ, 28 лістапада

Апошнія навіны: 9.00, 10.00, 12.00, 15.00, 19.00, 22.00, 23.50.

9.10 — «Прамень». 9.15 — «Па роднаму краю». На сувязі — Магілёў. 9.30 — праграма «Пульс». Па пісьмах радыёслухачоў. 10.05 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 10.35 — «Для тых, хто дома». 11.35 — працяг інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Прамень». 13.10 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Марым, слухаем, усміхаемся». 15.10 — музычны канал. 16.05 — «Радыё «Карусель» — дзецям і падлеткам». 16.15 — «Светач». Пазнавальная праграма. 16.35 — у гасцях у бабулі Алены. 17.00 — «Школа здароўя». 17.15 — «Званочак». Літаратурна-музычная перадача для малышоў. 19.00 — «Пастфактум-радыё». 20.00 — запісы майстроў беларускай песні. Канцэрт. 20.20 — «Супольнасць». 20.50 — вячэрняя казка. 21.00 — «Для вас, ветэраны». Музычная праграма. 22.10 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 23.40 — мелодыі для арфы. 0.02 — 1.00 — начны канал. Канцэрт з твораў В. Кандрусевіча.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС*: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».
*ТЭЛЕФОНЫ*: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. *ФАКС*: 32-04-52, 68-28-77.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7492.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12